● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

19 кастрычніка 1996 г. субота, № 252 (23055)

# ЗВЯЗДА




## УСЕБЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ СХОД АДКРЫВАЕЦЦА 19 КАСТРЫЧНІКА

19—20 кастрычніка 1996 года ў мінскім Палацы спорту адбудзецца першы Усебеларускі народны сход. Дэлегаты сходу абмяркуюць асноўныя палажэнні Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996—2000 гады і праект новай рэдакцыі Канстытуцыі (са змяненнямі і дапаўненнямі). З вялікім дакладам перад удзельнікамі выступіць Прэзідэнт Рэспублкі Беларусь А.Р. Лукашэнка.

Беларускае тэлебачанне, пачынаючы з 16 гадзін 19 кастрычніка і з 10 гадзін 20 кастрычніка будзе весці прамую трансляцыю з народнага форуму.

**Аргкамітэт па падрыхтоўцы Усебеларускага народнага сходу.**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## НАПАЛ СТРАСЦЕЙ Ў ПАРЛАМЕНЦЕ АДЛЮСТРОЎВАЕ СТАНОВІШЧА Ў ГРАМАДСТВЕ

**Палітычнае надвор'е ў беларускім грамадстве, безумоўна, не можа не адбівацца і на дзейнасці заканадаўчага органа нашай краіны. Павольная заканадаўчая работа час ад часу змяняецца абмеркаваннем пытанняў палітычнай накіраванасці. І чым бліжэй дата рэферэндуму, чым вышэй напружанасць у грамадстве, тым часцей гэта адбываецца. А напярэдадні 19—20 кастрычніка напал страсцей, здаецца, дасягнуў найвышэйшай адзнакі. Аб гэтым сведчыць і вячэрняе пасяджэнне Вярхоўнага Савета Беларусі 17 кастрычніка, а таксама ўчора раніцай.**

З кароткай інфармацыяй перад дэпутатамі ў чацвер вечарам выступіў спікер парламента Сямён Шарэцкі. Ён заклікаў дэпутатаў праявіць у гэтыя напружаныя дні жыццёвую мудрасць, не паддавацца на правакацыі і адстойваць закон. Ён прапанаваў прыняць зварот да ўдзельнікаў Кангрэса ў абарону Канстытуцыі супраць дыктатуры і ўдзельнікаў Усебеларускага народнага сходу (гэтыя звароты парламент адобрыў на ранішнім пасяджэнні 18 кастрычніка). Старшыня Вярхоўнага Савета таксама паведаміў, што не збіраецца быць удзельнікам ніводнага мерапрыемства, якія адбудуцца днямі ў сталіцы Беларусі. Паводле слоў С. Шарэцкага, ён не хоча стаць ахвярай правакацый ці саўдзельнікам антыканстытуцыйных дзеянняў. Спікер таксама расказаў дэпутатам, што Беларускае тэлебачанне адмовіла яму ў адказ на просьбу выступіць са зваротам да беларускага народа, у якім ён збіраўся заклікаць людзей не паддавацца эмоцыям, захоўваць спакой і кіравацца ў сваіх дзеяннях толькі нормамі дзеючага заканадаўства і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Далей Сямён Шарэцкі зачытаў парламентарыям дакумент, падпісаны першым намеснікам кіраўніка спраў Прэзідэнта Л. Харужыкам, паводле якога больш як 20 мільёнаў долараў па турэцкай крэдытнай лініі «Эксімбанка» мяркуецца накіраваць на будаўніцтва цэнтра камерцыйных сувязей, на будаўніцтва санаторыя ў Сочы з рэстаранам і казіно, на будаўніцтва катэджаў. Гэтая інфармацыя стала своеасаблівай прэлюдыяй да выступлення на сесіі кіраўніка Кантрольнай палаты Васіля Саковіча, які далажыў аб выніках праверкі гаспадарча-фінансавай дзейнасці Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта. З даклада вынікае, што Кантрольная палата амаль на ўсіх правяраемых аб'ектах «ведамства Ціцянкова» выявіла грубыя парушэнні. Ён прывёў канкрэтныя прыклады парушэнняў, назваўшы імёны, сумы і іншы «кампрамат». Абмеркаванне даклада В. Саковіча прадоўжылася раніцай 18 кастрычніка. Але падчас яго здарылася амаль дэтэктыўная гісторыя. Стэнаграму даклада старшыні Кантрольнай палаты, напрыклад, журналістам атрымаць не ўдалося. Прэс-служба парламента, таксама нічога не разумеючы, тлумачыла гэта тым, што запіс выступлення элементарна забралі яшчэ ў сакратарыяце сесіі. Толькі пасля настойлівых патрабаванняў і пошукаў выступленне Саковіча з'явілася ўчора у другой палове дня.

Нямала часу дэпутаты прысвяцілі і непасрэдна абмеркаванню падзей, якія адбудуцца ў сталіцы Беларусі сёння. Маецца на ўвазе мітынг пратэсту. Лідэр фракцыі камуністаў Сяргей Калякін паведаміў, што валодае інфармацыяй, паводле якой у Мінск перадыслацыраваны пэўныя паветрана-дэсантныя сілы, якія размясціліся ў некаторых школах горада. Адначасова ў сталіцу дастаўлены спецназ і АМОН з усяе рэспублікі. У клініках рыхтуюцца дадатковыя запасы крыві. «Дык што, заўтра тут рыхтуецца бойня?!» — абурана запытаўся дэпутат. Улічваючы важнасць гэтай інфармацыі С. Калякін запатрабаваў адказаць на пытанні дэпутатаў, міністра абароны. Устрывожаныя сітуацыяй, калегу падтрымалі астатнія парламентарыі. Такім чынам, па настойліваму патрабаванню Вярхоўнага Савета ўчора ў Авальнай зале з'явіліся прадстаўнікі сілавых ведамстваў краіны (кіраўнікі не прыйшлі, спаслаўшыся на сустрэчу з Прэзідэнтам). У выніку размовы «сілавікоў» і дэпутатаў высветліўся ход падрыхтоўкі да падзей 19 кастрычніка. У прыватнасці, прадстаўнікі МУС, КДБ, Міністэрства абароны абверглі інфармацыю, якую напярэдадні распаўсюдзіла газета «Свабода», аб тым, што для падаўлення дэманстрацыі рыхтуюцца групы снайпераў, аўтаматчыкаў, бранятэхніка, пажарныя машыны, сабакі, спецыяльныя сродкі паражэння. Яны заявілі, што дакумент, надрукаваны ў газеце, — фальсіфікацыя, і запэўнілі, што будуць кіравацца ў сваіх дзеяннях толькі Законам. Тым не менш, канчаткова трывогу дэпутатаў яны развеяць не змаглі. Таму кіраўніцтва Вярхоўнага Савета заклікала парламентарыяў не пакідаць у гэтыя дні Мінск. Было аб'яўлена, што будзе працаваць і Прэзідыум Вярхоўнага Савета.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## МІНІСТЭРСТВА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ БЕЛАРУСІ ЎПАЎНАВАЖАНА ЗАЯВІЦЬ!

«У сувязі з распаўсюджанай 17 кастрычніка заявай прэс-сакратра Дзяржаўнага дэпартамента Злучаных Штатаў Амерыкі Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь лічыць неабходным паведаміць, што ўспрымае сцвярджэнні, што прысутнічаюць у гэтай заяве, як яўнае ўмяшанне ва ўнутраныя справы Рэспублікі Беларусь і ўжо не першую спробу аказання амерыканскім бокам недапушчальнага палітычнага націску на дзяржаўную ўладу нашай краіны». Аб гэтым гаворыцца ў заяве МЗС, якую карэспандэнту БЕЛТА даслалі з аддзела друку і інфармацыі знешнепалітычнага ведамства.

У дакуменце, у прыватнасці, гаворыцца, што выказванні афіцыйнага амерыканскага прадстаўніка, якія датычацца канстытуцыйнай рэформы і маючага адбыцца рэферэндума, з'яўляюцца неабгрунтаванымі і паспешнымі, паколькі сам працэс пошуку кампраміснага рашэння гэтых надзённых для грамадскага жыцця Беларусі пытанняў яшчэ не завершаны. Любыя ж спробы звонку прадвызначаць ход развіцця падзей у суверэннай дзяржаве могуць толькі пашкодзіць паступальнаму развіццю яе двухбаковых адносінаў з замежнымі партнёрамі.

Міністэрства замежных спраў Беларусі заявіла, што кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь мае цвёрды намер ва ўсіх сваіх дзеяннях прытрымлівацца міжнародна прызнаных дэмакратычных працэдур, зыходзіць пры іх ажыццяўленні з прынцыпаў павагі асноўных правоў і свабод чалавека і поўнай непрымальнасці гвалтоўных шляхоў вырашэння палітычных канфліктаў у грамадстве.

**ДА ЎВАГІ ЧЫТАЧОЎ!**
**Наступны нумар «Звязды» выйдзе ў нядзелю, 20 кастрычніка г. г.**

*Аляксандр ЛУКАШЭНКА:*

## «ДЭМАКРАТЫЯ — ГЭТА ПЕРШ ЗА ЎСЁ ВОЛЕВЫЯЎЛЕННЕ НАРОДА»

Цяперашнім узаемаадносінам паміж Беларуссю і Францыяй была прысвечана сустрэча Прэзідэнта нашай краіны Аляксандра Лукашэнкі з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Французскай Рэспублікі Клодам Жаліфам. Яна адбылася 18 кастрычніка ў рэзідэнцыі кіраўніка беларускай дзяржавы.

Сустрэча прайшла крыху пазней за намечаную раней дату. Аднак, як сцвярджае Прэзідэнт, гэта зусім не звязана з некаторымі палітычнымі хістаннямі ў нашым грамадстве. У той жа час у гутарцы з паслом Аляксандр Лукашэнка закрануў і пытанні, што датычаць унутрыпалітычнай сітуацыі ў Беларусі. Паводле яго слоў, рэспубліка цяпер перажывае складаны час. Але, як заявіў кіраўнік нашай дзяржавы, сітуацыя ў краіне не настолькі вострая, якой яе падае апазіцыйная прэса.

Аляксандр Лукашэнка чарговы раз адзначыў, што менавіта Асноўны Закон Французскай Рэспублікі лёг у аснову праекта змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Беларусі, што выносіцца на рэферэндум. У выніку, лічыць Прэзідэнт, яна стане больш дэмакратычнай. Хоць, на яго думку, паняцце дэмакратыі ў нашай рэспубліцы многімі трактуецца па-рознаму. «У мяне ж дэмакратыя асацыіруецца перш за ўсё з волевыяўленнем народа. І вышэйшае яе праяўленне — усенародны сход і рэферэндум», — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. У ходзе сустрэчы былі закрануты таксама пытанні развіцця далейшага беларуска-французскага супрацоўніцтва ва ўсіх галінах. Субяседнікі аказаліся салідарнымі ў думцы, што на цяперашнім этапе двухбаковае супрацоўніцтва праходзіць даволі паспяхова і ёсць усе магчымасці для яго далейшага ўсебаковага развіцця.

Французскі дыпламат перадаў кіраўніку нашай дзяржавы альбом з фатаграфіямі, на якіх зазняты сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі ў Парыжы. Альбом падпісаны асабіста Прэзідэнтам Французскай Рэспублікі Жакам Шыракам. Прэзідэнт Беларусі яшчэ раз падзякаваў паслу за той цёплы і гасцінны прыём, які быў аказаны яму ў ходзе афіцыйнага візіту ў Францыю.

**Ігар РУБАН, БЕЛТА.**

*АФІЦЫЙНА*

## У ПРЭЗІДЫУМЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

17 кастрычніка пад старшынствам Сямёна Шарэцкага адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. На пасяджэнне былі запрошаны Генеральны пракурор В. Капітан, міністр унутраных спраў В. Агалец, старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі В. Мацкевіч, начальнік упраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкома Б. Тарлецкі, старшыня аргкамітэта па правядзенню Кангрэса ў абарону Канстытуцыі супраць дыктатуры Ю. Захаранка. Абмеркавана пытанне аб грамадска-палітычнай сітуацыі, якая склалася ў рэспубліцы.

Адкрываючы пасяджэнне, Старшыня Вярхоўнага Савета звярнуўся да запрошаных з прапановай паведаміць Прэзідыуму Вярхоўнага Савета аб мерах па забеспячэнню законнасці і парадку пры правядзенні мерапрыемстваў 18—19 кастрычніка ў Мінску, а таксама аб усіх вядомых ім фактах магчымых правакацый, падрыхтоўкі антыканстытуцыйных дзеянняў.

Ю. Захаранка заявіў, што «ахова грамадскага парадку і бяспека тых, хто прымае ўдзел у мітынгу, будуць забяспечвацца сіламі аргкамітэта». Старшыня аргкамітэта кангрэса выказаў надзею, што «асобы, якія забяспечваюць парадак з афіцыйнага боку, будуць захоўваць закон».

Міністр унутраных спраў В. Агалец адзначыў, што «пэўныя нейкія прабелы ў арганізацыі гэтага мерапрыемства ёсць, але мы гатовы выканаць усё нармальна», «...мы прыкладзём шмат цярпення для таго, каб разрадзіць сітуацыю. Але калі гэта будзе звязана з яўным насіллем... я не хаваю, будуць прыняты ўсе меры для аднаўлення парадку. Доўга разважаць не будзем».

Старшыня КДБ В. Мацкевіч праінфармаваў, што, «асабліва ў выпадку прымянення праваахоўнымі органамі жорсткіх сілавых мераў, не выключае магчымасці ўзнікнення канфліктных сітуацый, стварэння перадумоў масавага беспарадку,

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## УВАГА!

**Шаноўныя чытачы «Звязды»! На ўсе вашы пытанні адкажа старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзімір ГАНЧАРЫК**

Цяперашні эканамічны стан і шляхі выхаду з крызісу, нявыплата заробку і беспрацоўе, умовы працы і сацыяльная абарона, ахова здароўя і адпачынак, — вось далёка не поўнае кола пытанняў, на якія вам адкажа старшыня Федэрацыі прафсаюзаў беларусі Уладзімір Іванавіч Ганчарык.

**«Прамая лінія» «Звязды» адбудзецца ў пятніцу 25 кастрычніка з 14 да 16 гадзін.**

**Тэлефоны «прамой лініі» — 232-38-21, 232-38-92.**

Папярэднія званкі прымаюцца штодня па тэл. (8-017) 268-27-57.

**Дасылайце таксама пытанні па пошце. Нагадаем наш адрас: *220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».***

*Калі ласка, зрабіце паметку: «Для старшыні ФПБ».*

## «ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

Сучасны век немагчымы без разгалінаванай, шматграннай інфраструктуры зносінаў. Ці не найбольшы прыярытэт тут належыць сродкам электроннай сувязі, радыё, пошце. Іх праца мае дачыненне да ўсіх слаёў насельніцтва.

**Таму «Звязда» і праводзіць «прамую лінію» з міністрам сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Іванавічам ГАНЧАРЭНКАМ.**

Ён адкажа на ўсе вашы пытанні, паважаныя чытачы, звязаныя з падначаленай яму галіной.

**Чакаем вашых званкоў 21 кастрычніка з 12 да 13 гадзін па тэлефонах 232-38-21 і 232-38-92.**

***Папярэдне задавайце пытанні па тэлефонах: 268-28-72 і 268-27-51 або пісьмова.***

## ПРАЕКТ КАНСТЫТУЦЫІ, ПРАПАНУЕМЫ ПРЭЗІДЭНТАМ, БУДЗЕ САДЗЕЙНІЧАЦЬ РАЗВІЦЦЮ І ЎМАЦАВАННЮ ДЭМАКРАТЫЧНАГА ЛАДУ

Завяршыла работу створаная распараджэннем Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі Камісія па ўліку заўваг і прапаноў ад грамадзян, працоўных калектываў, грамадскіх арганізацый, дзяржаўных органаў на апублікаваны праект змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, які быў ініцыіраваны кіраўніком дзяржавы. З просьбай пракаменціраваць вынікі яе работы карэспандэнт БЕЛТА звярнуўся да намесніка кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта, доктара юрыдычных навук, прафесара Аляксандра Абрамовіча, які ўзначальвае гэту камісію.

— У рэдакцыі праекта Канстытуцыі, якая ёсць на сённяшні дзень, улічана значная частка паступіўшых заўваг, паправак, дапаўненняў. У першую чаргу хацелася б адзначыць, што важны крок зроблены на шляху расшырэння сацыяльна-эканамічных правоў грамадзян. У прыватнасці, у новым праекце дзяржава гарантуе вяртанне ўкладаў насельніцтва. Больш удзелена ўвагі праблемам жанчын. Ім забяспечваецца прадастаўленне роўных з мужчынамі магчымасцей у атрыманні адукацыі і прафесіянальнай падрыхтоўкі, у працы і прасоўванні па рабоце, у грамадска-палітычнай і іншых сферах дзейнасці. Улічана і прапанова прафсаюзаў аб замацаванні ідэі сацыяльнага партнёрства паміж органамі дзяржаўнага кіравання, аб'яднаннямі наймальнікаў і прафесіянальнымі саюзамі.

Вельмі важнае значэнне мае замацаванне ў праекце палажэння аб тым, што кожны грамадзянін рэспублікі можа з мэтай абароны сваіх правоў і свабод, калі вычарпаны ўнутрыдзяржаўныя сродкі, звяртацца ў міжнародныя арганізацыі.

У той жа час па выніках усенароднага абмеркавання Камісія прапануе ўстанавіць і дадатковыя абмежаванні, якія, лічу, павінны садзейнічаць развіццю і ўмацаванню дэмакратычнага ладу. Падлягаюць пакаранню любыя дзеянні па змяненню канстытуцыйнага ладу гвалтоўнымі метадамі. Важнае ўдакладненне — забараняецца дзейнасць палітычных партый і іншых грамадскіх аб'яднанняў, якая накіравана на распальванне не толькі нацыянальнай, рэлігійнай і расавай, але і сацыяльнай варожасці. Грамадству неабходна супрацоўніцтва паміж сацыяльнымі слаямі, а не процістаянне.

Пэўныя папраўкі ў праект трэба было б унесці і ў адносінах да рэлігійных арганізацый. Размова ідзе аб тым, што кожны грамадзянін мае права выказваць свае перакананні, удзельнічаць у адпраўленні культаў і абрадаў, але толькі такіх, якія не забаронены законам.

У новым праекце, які падрыхтаваны па выніках усенароднага абмеркавання, прадугледжаны асаблівы клопат дзяржавы аб ветэранах вайны і працы. Замацаваны таксама тэзіс аб ахове не толькі культурных, але і духоўных каштоўнасцей беларускага народа.

Другі напрамак, які патрабуе пільнай увагі камісіі, — больш поўнае забеспячэнне, з аднаго боку, прынцыпу ўзаемадзеяння розных галін улады, а з другога — іх раздзяленне, з тым, каб дзяржаўны механізм мог функцыянаваць дастаткова эфектыўна. Прадугледжваецца, што назначэнне фактычна на ўсе вышэйшыя дзяржаўныя пасады будзе ажыццяўляцца Прэзідэнтам толькі са згоды адной з палат парламента — Сената (магчыма, ён будзе называцца Саветам рэспублікі). У гэтым бачыцца дасягненне ўзаемаразумення і ўзаемаўзгодненасці ў кадравай палітыцы на вышэйшым узроўні. Што датычыць вызвалення ад пасады вышэйшых кіраўнікоў, то яно будзе ажыццяўляцца Прэзідэнтам, але на падставе закона, які прыме парламент і ў якім будуць дакладна агавораны ўмовы, якія даюць кіраўніку дзяржавы права вызваліць ад пасады тую ці іншую асобу. І не больш.

Прадугледжана, што, аб'яўляючы ваеннае палажэнне, поўную або частковую мабілізацыю, г. з праводзячы акцыі, якія ўплываюць на сітуацыю ў краіне, уключаючы ўвядзенне надзвычайнага становішча, Прэзідэнт абавязаны ўносіць прынятае рашэнне ў трохдзённы тэрмін на зацвярджэнне Сената, які ў сваю чаргу на працягу трох дзён абавязаны яго разгледзець. Гэта таксама важны баланс у паўнамоцтвах кіраўніка дзяржавы, з аднаго боку, і парламента — з другога.

Што датычыць паўнамоцтваў Прэзідэнта, то зніжана, умоўна кажучы, яго прысутнасць у Сенаце. Яно абмяжоўваецца толькі 8 членамі. У сваю чаргу кожная вобласць і Мінск будуць мець па 8 прадстаўнікоў. Мяркуецца, што ўсяго іх будзе 64, і толькі невялікая частка назначаецца Прэзідэнтам з мэтай забеспячэння ўзаемасувязі з парламентам. У прапануемым праекце за старшынямі палат замацоўваецца права склікаць нечарговыя сесіі. Сесіі могуць склікацца і па патрабаванню простай большасці саставу палат. Мала якая абстаноўка можа скласціся ў краіне, і парламент павінен мець магчымасць у любую хвіліну сабрацца на сесію.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

# ПРАЕКТ КАНСТЫТУЦЫІ, ПРАПАНУЕМЫ ПРЭЗІДЭНТАМ, БУДЗЕ САДЗЕЙНІЧАЦЬ РАЗВІЦЦЮ І ЎМАЦАВАННЮ ДЭМАКРАТЫЧНАГА ЛАДУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Шмат пытанняў узнікла ў сувязі з выданнем Прэзідэнтам дэкрэтаў, якія маюць сілу закона. Такая норма замацавана ў многіх замежных канстытуцыях. У Іспаніі, напрыклад, урад, а не Прэзідэнт, можа выдаваць акты, якія маюць сілу закона і якія парламент абавязаны на працягу трыццаці дзён разгледзець. Мы ж пайшлі далей, запісаўшы ў праекце, што Прэзідэнт абавязаны ўносіць гэтыя дэкрэты ў трохдзённы тэрмін на разгляд парламента, які можа іх адмяніць у любы час большасцю галасоў. Акрамя таго, пашыраны пералік падстаў, па якіх Прэзідэнт не зможа прымаць часовыя дэкрэты. У прыватнасці, гэта датычыцца змянення парадку выбараў парламента, абмежавання канстытуцыйных правоў і свабод грамадзян. Акрамя таго, не дапускаецца выданне часовых дэкрэтаў, якія ўносілі б змяненні ў Канстытуцыю, законы, звязаныя з абароннай дактрынай, у асновы ўнутранай і знешняй палітыкі. Не можа Прэзідэнт выдаваць і дэкрэты, якія маюць сілу закона, па пытаннях рэспубліканскага бюджэту, змяненняў парадку выбараў Прэзідэнта. Так што апанентам праекта наўрад ці варта па гэтым пытанні нагнятаць абстаноўку — права выдаваць такога кшталту дэкрэты ніякім чынам не можа парушаць дэмакратычныя асновы жыцця грамадства.

Размовы аб тым, што Прэзідэнт можа ў любы час разагнаць парламент, не маюць ніякіх падстаў. У праекце Асноўнага закона пералічаны выпадкі, калі Прэзідэнт можа яго распусціць: гэта — паўторнае адхіленне прадстаўленай кандыдатуры на пасаду прэм'ер-міністра ці паўторнае адхіленне праграмы Кабінета Міністраў. У гэтых выпадках Прэзідэнт можа ці адправіць у адстаўку ўрад, ці распусціць парламент. І гэта правільна, паколькі ўрад — і гэта замацавана ў праекце — дакладна такая ж самастойная галіна ўлады, як парламент. І час ужо навучыцца адносіцца да іх, як да раўнаправўных, адносіцца з павагай.

Хацеў бы яшчэ раз падкрэсліць: праект Канстытуцыі мае дастаткова дэмакратычны характар. Калі ў нас уведзена пасада Прэзідэнта, калі мы адмовіліся фактычна ад савецкай Канстытуцыі, ад савецкай сістэмы дзяржаўнага механізма, сталі на прынцып раздзялення ўладаў, то ўсё цалкам трэба юрыдычна забяспечыць, каб кожная ўлада мела магчымасці ажыццяўлення сваіх рашэнняў. Пакуль жа, на жаль, гэтага няма. Вярхоўны Савет можа прыняць усе рашэнні, Прэзідэнт жа не можа прыняць практычна ніякіх. Вось чаму ў гэтым праекце ўжыта зусім новая формула, уласцівая для парламента і для ўладкавання дзяржаўнага механізма дэмакратычных краін: і парламент, і Прэзідэнт могуць вырашаць тыя пытанні, якія прадугледжаны Канстытуцыяй. Іншымі словамі, не толькі Прэзідэнт, чаго хацелася б апанентам, але і парламент не павінны мець магчымасць пашыраць сваю кампетэнцыю шляхам прыняцця законаў, як гэта мела месца. Час кожнай галіне ўлады навучыцца дзейнічаць у рамках Канстытуцыі, а для гэтага трэба ўнесці законным шляхам адпаведныя карэктывы ў Асноўны закон краіны. Цяпер гэты шлях — шлях рэферэндуму.

Праект са змяненнямі будзе, відаць, прадстаўлены Прэзідэнтам на абмеркаванне Усебеларускага народнага сходу. Натуральна, некаторыя папраўкі ўнясе кіраўнік дзяржавы. Наколькі мне вядома, мяркуецца замацаванне ў Канстытуцыі палажэння аб адкліканні дэпутатаў.

Усіх, вядома, цікавіць пытанне, якія справы са зваротам да Прэзідэнта 110 дэпутатаў. Фактычна з шасці сфармуляваных дэпутатамі прапаноў усе, за выключэннем адной, улічаны ў гэтым праекце. Паколькі дэпутаты не прынялі прапановы Аляксандра Лукашэнкі аб пераносе даты рэферэндуму, аб зняцці альтэрнатыўнага праекта, то артыкул 143 застаўся ў асноўным у ранейшай рэдакцыі: «У месячны тэрмін, калі вынікі рэферэндуму будуць станоўчымі, Прэзідэнт і Вярхоўны Савет сумесна сфарміруюць Палату прадстаўнікоў, Сенат будзе выбраны ў парадку, які вызначаны артыкулам 91 праекта».

Калі не будуць усё-такі прыняты прапановы Прэзідэнта, то ў выпадку, калі праект атрымае пацвярджэнне, найбольш верагодна, будуць аб'яўлены новыя выбары ў Нацыянальны сход — Палату прадстаўнікоў і Сенат. Думаю, што такое рашэнне будзе справядлівым, паколькі працаваць на аснове новай Канстытуцыі можна толькі, калі падзяляеш яе палажэнні, разумееш прагрэсіўнасць замацаваных у ёй нормаў.

Што датычыць размоў аб тым, што прапануемы праект Канстытуцыі будзе садзейнічаць усталяванню ў грамадстве дыктатарскага рэжыму, скажу наступнае: тыя ці іншыя рэжымы ўстанаўліваюцца пад уплывам не толькі юрыдычных, але і многіх іншых фактараў. У рэспубліцы такіх тэндэнцый, на мой погляд, не назіраецца. Уся справа ў тым, як мы будзем выконваць Канстытуцыю, законы, як мы будзем іх разумець — і народ, і кіруючыя структуры на розных узроўнях. Але галоўнае, падкрэсліваю, выконваць канстытуцыйныя нормы. Гэтай думкі прытрымліваюцца практычна ўсе члены той камісіі, якая была створана для дапрацоўкі апублікаванага праекта змяненняў і дапаўненняў Канстытуцыі і якая прадставіла пералічаныя вышэй і шэраг іншых прапаноў Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь.

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, БЕЛТА.**

# ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## АБ ЗВАРОЦЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ДА ЎДЗЕЛЬНІКАЎ УСЕБЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА СХОДУ І НАЦЫЯНАЛЬНАГА КАНГРЭСА «У АБАРОНУ КАНСТЫТУЦЫІ, СУПРАЦЬ ДЫКТАТУРЫ»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Прыняць тэкст Звароту Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь да ўдзельнікаў Усебеларускага народнага сходу і Нацыянальнага кангрэса «У абарону Канстытуцыі, супраць дыктатуры» (прыкладаецца).

2. Даручыць Прэзідыуму Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь давесці вышэйназваны Зварот Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь да ўдзельнікаў Усебеларускага народнага сходу і Нацыянальнага кангрэса «У абарону Канстытуцыі, супраць дыктатуры».

3. Апублікаваць Зварот Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь да ўдзельнікаў Усебеларускага народнага сходу і Нацыянальнага кангрэса «У абарону Канстытуцыі, супраць дыктатуры» ў «Народнай газеце» і газеце «Звязда».

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ**

*18 кастрычніка 1996 г., г. Мінск.*
*№ 700-XIII*

# ЗВАРОТ

## ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ДА ЎДЗЕЛЬНІКАЎ УСЕБЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА СХОДУ І НАЦЫЯНАЛЬНАГА КАНГРЭСУ «У АБАРОНУ КАНСТЫТУЦЫІ, СУПРАЦЬ ДЫКТАТУРЫ»

Паважаныя дэлегаты!

Дарагія суграмадзяне!

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь выказвае крайнюю заклапочанасць і трывогу з прычыны далейшага нарастання напружанасці і процістаяння ў грамадстве. Сёння мы як ніколі блізкія да разбурэння згоды ў грамадстве, за якім немінуча надыдуць хаос, раскол нацыі і разбурэнне асноў дзяржаўнасці. Сёння як ніколі існуе вялікае спакушэнне вырашаць праблемы не праз дыялог і пошук кампрамісу, а праз дыктат сілы, не на аснове канстытуцыйнай законнасці, а зыходзячы з мэтазгоднасці. Разуменне гэтага прымушае Вярхоўны Савет звярнуцца да вас з папярэджаннем устрымацца ад прыняцця непрадуманых, паспешлівых, незаконных рашэнняў, з заклікам аб недапушчэнні падмены легітымнага канстытуцыйнага органа — Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Рашэнні Усебеларускага народнага сходу і Нацыянальнага кангрэса «У абарону Канстытуцыі, супраць дыктатуры» могуць мець выключна кансультатыўны характар. Толькі Вярхоўны Савет, згодна з артыкулам 74 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, мае права прызначыць дату правядзення рэферэндуму. Што ён і зрабіў, вызначыўшы дату рэферэндуму — 24 лістапада 1996 года. Зроблена гэта ў мэтах эканоміі народных сродкаў пры адначасовым правядзенні рэферэндуму і давыбараў у мясцовыя і Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.

Таму любое рашэнне аб пераносе даты рэферэндуму, прынятае неканстытуцыйнымі органамі, з'явіцца прамым парушэннем Канстытуцыі краіны.

Адказнасць за тое, што адбудзецца, будзе перакладзена на дэлегатаў форумаў. Таму мы заклікаем вас кіравацца пры прыняцці рашэння толькі законамі і Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

Вярхоўны Савет яшчэ раз пацвярджае сваю гатоўнасць да пошуку кампрамісу і згоды на аснове так званага «нулявога варыянта» — адклікання дапаўненняў і змяненняў у дзеючую Канстытуцыю, прапанаваных Прэзідэнтам краіны і групай дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Мы гатовы неадкладна разгледзець і прыняць усе канстытуцыйныя прапановы Прэзідэнта А. Лукашэнкі, накіраваныя на ўзмацненне сацыяльных гарантый і правоў грамадзян, на пашырэнне паўнамоцтваў урада краіны.

Вярхоўны Савет рэкамендуе дэпутатам Вярхоўнага Савета ўстрымацца ад удзелу ў прыняцці антыканстытуцыйных рашэнняў, у дзеяннях, магчымымі вынікамі якіх з'явіцца беззаконнасць і прававое бязмежжа. Ніхто не мае права выступаць ад імя Вярхоўнага Савета, рабіць афіцыйныя заявы, звароты па-за рамкамі прадугледжаных законам працэдур.

Усе галіны ўлады адказныя перад народам, і ні адна з іх не павінна рабіць неабдуманых крокаў. Нам не патрэбны вялікія ўзрушэнні, нам неабходна стабільная, моцная Беларусь.

# «ТРЭБА ПАДТРЫМАЦЬ ВЫКАНАЎЧУЮ УЛАДУ, ТАМУ ШТО ЗА УСЁ АДКАЗВАЕ ЯНА»

— Я, як грамадзянін, пайду на рэферэндум і буду галасаваць за прыняцце прапанаваных Прэзідэнтам папраўак у Канстытуцыю, — заявіў у гутарцы з карэспандэнтам БЕЛТА дэлегат Усебеларускага народнага сходу, былы першы сакратар ЦК КПБ Яфрэм Яўсеевіч Сакалоў. — Упэўнены, што Усебеларускі сход падтрымае Прэзідэнта, і так павінен зрабіць кожны, хто думае пра будучыню сваіх дзяцей.

Цяпер многія гавораць аб тым, якой павінна быць улада, аб яе раздзяленні, аб незалежнасці яе галін. Усё гэта так. Але ўлада павінна быць перш за ўсё адзіная. Адзіная ў сваёй адказнасці за стан спраў у рэспубліцы. Давайце зададзімся ўсё ж пытаннем, якая з галін улады займаецца канкрэтнай работай па вывадзе рэспублікі з крызісу? Куды людзі звяртаюцца з прэтэнзіямі, просьбамі, патрабаваннямі? Няўжо ў Вярхоўны Савет? Ды не. Вярхоўны Савет прыняў закон — добра, не прыняў — што ж... Людзі ідуць да прадстаўнікоў выканаўчай улады, якую ўзначальвае Прэзідэнт. Ці можа слабая выканаўчая ўлада вырашаць жыццёвыя праблемы людзей, вырашаць аператыўна, сёння, а не праз год? Зноў жа не. Тады хто і чаму баіцца ўзмацнення выканаўчай улады, улады Прэзідэнта? Хто і чаму ставіць пытанне аб ліквідацыі гэтага інстытута? Літаральна некалькі гадоў таму вышэйшыя дзяржаўныя кіраўнікі скардзіліся на сваё бяссілле. Старшыня Вярхоўнага Савета гаварыў, што ў яго няма паўнамоцтваў назначыць супрацоўніка ва ўласны апарат, кіраўнік урада — што не мае права нават зняць нядбайнага старшыню райвыканкома. А ў гэты час адны імкліва ўзбагачаліся, робячы ўласныя грошы на рэсурсах дзяржавы, другія гэтак жа імкліва бяднелі. Усім вядома, якія палацы павырасталі вакол Мінска. На зарплату яны пабудаваны? Праўда, многія з іх незавершаны. Лічу, гэта адбылося таму, што прыйшоў чалавек, які прыпыніў разгул стыхіі.

Прэзідэнт вырашыў узяць на сябе адказнасць? Трэба яе даць. Тым больш, што іншых ахвотнікаў нешта не відаць. Прэзідэнт у нас малады, прыйшоў да ўлады без дастатковага вопыту дзяржаўнага кіравання. Але ён таленавіты чалавек. Прайшло ўсяго два гады — тэрмін, недастатковы нават для таго, каб закончыць інстытут — але можна з упэўненасцю гаварыць: у нас ёсць Прэзідэнт.

Тым, хто не жадае ўзмацнення выканаўчай улады, проста выгадны стан неразбярыхі.

Увогуле, Вярхоўны Савет моцна падмачыў сваю рэпутацыю. І папярэдні яго састаў, і цяперашні. Успомніце, колькі дэпутацкіх ільгот наўводзілі парламентарыі папярэдняга склікання на завяршэнні сваёй дзейнасці. А цяперашнія ў адказ на праект прэзідэнцкіх змяненняў у Канстытуцыю таксама заявілі: дайце нам права быць у парламенце яшчэ пяць гадоў, самастойна фарміраваць палаты і г.д., тады не будзем мець прэтэнзій. Зноў усе пра сябе. І нават калі Прэзідэнт пагадзіўся, не стрымалі слова. Гісторыя са 110 подпісамі ўвогуле плямай кладзецца на парламентарыяў. Хіба можна мець справу з тымі, хто слова можа даць, а можа забраць. Дарэчы, на выбары вельмі многія кандыдаты ў дэпутаты ішлі пад лозунгамі Прэзідэнта. Некаторыя нават фатаграфіі, дзе яны разам з Прэзідэнтам, як талісман, выбаршчыкам паказвалі. І раптам такі паварот.

Мне здаецца, дэпутаты баяцца не дыктатуры, а работы, адказнасці за выкананне заканадаўчых функцый, баяцца, каб іх не паставілі ў тыя рамкі, якія ім прызначаны логікай улады і логікай раздзялення ўладаў.

— Хацеў бы звярнуць Вашу ўвагу на рознагалоссі ў ПКБ. Нізы ПКБ — за Прэзідэнта, вярхі — супраць...

— Калякін і Новікаў вядуць ПКБ па сцежцы, пракладзенай Гарбачовым. Глядзіце, кіраўніцтва ПКБ вырашыла адмесці думку ветэранаў партыі. А ветэраны ж партыі складаюць большасць у ПКБ. Калі б не яны, аднаўленне партыі камуністаў было б праблематычным. Цяперашнім сакратарам ЦК, хоць яны сябе і называюць сапраўднымі сакратарамі, не ўдалося пакуль прыцягнуць шырокія масы маладых людзей у свае рады. Калі ветэраны пакінуць партыю, ПКБ будзе нешматлікай і малаўплывовай арганізацыяй. У свой час Гарбачоў разладзіў кіраўніцтва КПСС, прапанаваўшы вывесці з ЦК 110 членаў ЦК пад выглядам іх пенсіённага ўзросту. А ветэраны ж — найбольш умудроная вопытам жыцця і найбольш стойкая частка грамадства.

Кіраўніцтва ПКБ вырашыла, што з намі можна не лічыцца. Зыходзячы з гэтага, я палічыў немагчымым сваё знаходжанне ў ПКБ і выйшаў з гэтай партыі.

**БЕЛТА.**

# ТРЫВОГА ЗА ЛЁС КАНСТЫТУЦЫІ І КРАІНЫ ПАКЛІКАЛА НА КАНГРЭС

Учора ў Мінску адбыўся Нацыянальны кангрэс у абарону Канстытуцыі, супраць дыктатуры. Як вядома, ініцыятыва аб яго скліканні з'явілася адразу ж пасля таго, як Прэзідэнт аб'явіў аб правядзенні 19 кастрычніка Усебеларускага народнага сходу. Папярэдне меркавалася, што гэтае альтэрнатыўнае мерапрыемства адбудзецца ў адзін дзень з тым, якое рыхтуе выканаўчая ўлада. Аднак у апошні час, зыходзячы з тактычнай мэтанакіраванасці, аргкамітэт вырашыў правесці кангрэс на дзень раней.

Зала Палаца прафсаюзаў не змагла ўмясціць усіх дэлегатаў, гасцей, запрошаных і шматлікіх прадстаўнікоў прэсы. Перад афіцыйным адкрыццём кангрэса адзін з членаў аргкамітэта Юрый Захаранка абвясціў трывожную інфармацыю аб падрыхтоўцы ўладаў да мітынгу пратэсту 19 кастрычніка. Ён зачытаў дакладную запіску начальніка баявой падрыхтоўкі корпуса аховы палкоўніка А. Шкуна «Аб выніках выканання распараджэння па падрыхтоўцы сіл і сродкаў для аховы грамадскага парадку 19-20 кастрычніка 1996 года» (больш падрабязна пра гэтую інфармацыю чытайце ў справаздачы з сесіі Вярхоўнага Савета ў сённяшнім нумары «Звязды»).

З прывітальным словам да ўдзельнікаў кангрэса выступіў Янка Брыль, які выказаў занепакоенасць тым, што Беларусь у чарговы час перажывае вельмі складаны этап у сваёй гісторыі. У краіне зноў наступіла смута і цемрашальства. Слова на форуме ўзяў таксама намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка, які вельмі крытычна ацаніў эканамічны стан нашай краіны і абвінаваціў у гэтым выканаўчую ўладу і непасрэдна Прэзідэнта.

Пасля Карпенкі на трыбуну падымаліся дэпутаты Вярхоўнага Савета Мечаслаў Грыб і Пятро Краўчанка, а таксама дырэктар інстытута дзяржаўнага будаўніцтва і заканадаўства, доктар юрыдычных навук Антон Матусевіч. Яны прааналізавалі дзеючую Канстытуцыю і праект змен, які прапанаваў Прэзідэнт на ўсенародны рэферэндум. Заключэнне ўсіх выступаючых было амаль аднолькавым: дзеючая Канстытуцыя адпавядае патрэбам Беларусі, затое праект Прэзідэнта ўстановіць дамінаванне толькі адной галіны ўлады, а дакладней — аднаго чалавека. Сп. Краўчанка пры гэтым нават спаслаўся на заключэнні экспертаў Савета Еўропы, у якіх праект змен, прапанаваны Аляксандрам Лукашэнкам, адназначна называецца недэмакратычным. На кангрэсе выступілі з прамовамі намеснік старшыні Беларускага народнага фронту Юры Хадыка, народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, дэпутат Вярхоўнага Савета Аляксандр Бухвостаў.

На жаль, час падпісання газеты ў друк не дазваляе нам расказаць шырока пра работу форуму, таму падрабязную інфармацыю чытайце ў наступным нумары «Звязды».

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# У ПРЭЗІДЫУМЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

правакацый, сутыкненняў проціборствуючых бакоў паміж сабой і супрацоўнікамі органаў правапарадку». Старшыня КДБ лічыць «мэтазгодным органам улады і праваахоўным структурам устрымацца ад прымянення жорсткіх сілавых мераў у адносінах да мерапрыемстваў, якія плануе апазіцыя». Паводле яго слоў, ён ужо выказаў пункт гледжання і пазіцыю КДБ на нарадзе Савета бяспекі і мае намер азнаёміць з ёю Прэзідэнта.

Асаблівую занепакоенасць наконт правядзення мітынгу і шэсця выказаў начальнік УУС Мінгарвыканкома Б. Тарлецкі. Згодна з яго заявай, арганізатары мітынгу на апошняй сустрэчы з кіраўніцтвам гарвыканкома «не прыйшлі да разумення, дакладнай дамоўленасці ў гэтым плане няма».

Старшыня Вярхоўнага Савета, члены Прэзідыума выказалі крайнюю занепакоенасць сітуацыяй, што склалася ў грамадстве. Яны звярнуліся да кіраўнікоў сілавых ведамстваў з патрабаваннем забяспечыць правапарадак у дзяржаве без прымянення крайніх мераў, жорсткіх сілавых метадаў. Арганізатарам Кангрэса ў абарону Канстытуцыі супраць дыктатуры, міністру ўнутраных спраў было прапанавана праз сродкі масавай інфармацыі звярнуцца да грамадзян рэспублікі з тлумачэннем сітуацыі.

Старшыня Вярхоўнага Савета асабліва адзначыў, што будучыя падзеі «небяспечныя парушэннем законнасці і Канстытуцыі». Ён настойліва рэкамендаваў ініцыятарам мерапрыемстваў, прадстаўнікам выканаўчай улады яшчэ раз узгадніць свае пазіцыі, каб не дапусціць антызаконных дзеянняў як з аднаго, так і з другога боку.

На пасяджэнні быў прыняты зварот Прэзідыума Вярхоўнага Савета да Кабінета Міністраў, разгледжаны іншыя пытанні.

**Прэс-служба ВС Рэспублікі Беларусь.**

# ПКБ — КПБ = раскол?

***«Наўздагон» карэспандэнт «Звязды» гутарыць са старшынёй аргкамітэта КПБ Віктарам Чыкіным.***

**— Стварэнне яшчэ адной, можна сказаць, паралельнай камуністычнай партыі — чым яно выклікана?**

— Справа ў тым, што ў партыі наспелі даволі сур'ёзныя рознагалоссі. У такіх варунках было толькі адно цывілізаванае выйсце —склікаць надзвычайны з'езд, які б іх і вырашыў. Тым не менш (нягледзячы на тое, што за такі варыянт выказалася большая частка камуністаў рэспублікі), кіраўніцтва партыі вырашала такі з'езд не праводзіць. Таму нічога не заставалася, як стварыць аргкамітэт па сутнасці новай «левай» партыі — КПБ.

**— Вы кажаце аб рознагалоссях. У чым яны?**

— Па вялікаму рахунку, усё зводзіцца толькі да двух пытанняў: што сёння ўяўляе найбольшую небяспеку міру і стабільнасці ў рэспубліцы і з кім камуністам трэба аб'ядноўвацца? Нашы апаненты, кіраўнікі ПКБ, лічаць, што найбольшую небяспеку ўяўляе Прэзідэнт, таму трэба аб'ядноўвацца нават з крайне «правымі» партыямі тыпу БНФ. Мы лічым якраз наадварот — галоўная небяспека зыходзіць менавіта ад «правых», таму для барацьбы з імі ёсць сэнс быць разам з Прэзідэнтам.

Мы разлічваем не толькі на ветэранаў, як тое спрабуюць прадставіць зараз, а на самыя шырокія колы.

**— Пакуль апошняе пытанне — ці лічыце вы сябе «раскольнікамі»?**

— Не, мы рабілі якраз усё магчымае, каб пазбегнуць расколу. Але ў дадзеным выпадку кампраміс не атрымаўся.

Тым часам намер стварыць яшчэ адну камуністычную партыю адзін з лідэраў ПКБ, намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета **Васіль НОВІКАЎ** пракаменціраваў такім чынам:

— Сапраўды, сёння ў партыі ёсць група людзей, якая жадае самарэалізаваць сябе, жадае самастойнасці і якая лічыць, што яны лепш разумеюць цяперашнія працэсы развіцця рэспублікі. Па маіх звестках, яны маюць намер склікаць 2 лістапада надзвычайны з'езд партыі камуністаў. У такой сітуацыі асабіста я хацеў бы пажадаць ім аднаго — вялікіх поспехаў.

**Сяргей ГРЫБ.**

# СТРАШЫЛКА ЦІ ФАЛЬШЫЎКА?

Значная частка прэс-канферэнцыі арганізатараў кангрэса ў абарону Канстытуцыі была прысвечана скандальнаму дакументу А. Шкуна.

Экс-міністр унутраных спраў Ю.Захаранка паведаміў, што ён валодае арыгіналам гэтага дакумента, але ён выказаў упэўненасць, што гэты дакумент не будзе працаваць, Захаранку вядомы тыя спецаб'екты, што ўпамінаюцца ў гэтай запісцы, яны рэальныя. «Уся гэтая шуміха робіцца для таго, каб напужаць удзельнікаў намечаных акцый»,— выказаў сваё меркаванне Ю.Захаранка. Яго падтрымаў С.Шушкевіч, які лічыць што гэта робіцца з мэтай зменшыць колькасць удзельнікаў акцый і мяркуе, што арганізатары маюць дастатковы вопыт, каб не дапусціць эксцэсаў.

«Мы гарантуем ахову парадку сваімі сіламі»,— зазначыў Ю.Захаранка. Адзін з лідэраў БНФ Юрый Хадыка заявіў, што Беларускі народны фронт і яго прыхільнікі не дапусцяць са свайго боку ніякіх правакацый і будуць усяляк ухіляцца ад сутыкненняў з прадстаўнікамі службаў аховы правапарадку, прадстаўнікі аргкамітэту мітынгу А.Бухвостаў, Ю.Беленькі і А.Бяляцкі таксама будуць рабіць усё, каб пазбегнуць сутыкненняў і, паводле слоў Бухвостава, органы ўлады будуць спрыяць гэтай іх працы на месцах падзей. «Калі і будуць правакацыі, то яны могуць быць інспіраваны толькі ўладамі»,— зазначыў Ю.Захаранка. Георгій Таразевіч аднак заявіў журналістам, што ён валодае дастаadvernymi звесткамі з Адміністрацыі Прэзідэнта і гарвыканкома, якія сведчаць аб тым, што ўлады прымяняць сілу не намераны.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## Вольга ДАРГЕЛЬ:

# «СФЕРА САЦЫЯЛЬНАЙ АБАРОНЫ НАСЕЛЬНІЦТВА НЕ ТОЛЬКІ ЗАЙМАЕЦЦА ВЫКАНАННЕМ ДЗЯРЖАЎНЫХ АБАВЯЗКАЎ, АЛЕ І ВЫСТУПАЕ СЁННЯ ГАРАНТАМ СТАБІЛЬНАСЦІ Ў ГРАМАДСТВЕ»

**«Прамая лінія» з міністрам сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь Вольгай Даргель выклікала шырокі рэзананс у нашых чытачоў. Напярэдадні сустрэчы ў рэдакцыі па тэлефоне свае пытанні міністру задалі дзесяткі чалавек. Сорак званкоў было і непасрэдна ў час «прамой лініі». Таксама вялікі абсяг пытанняў зададзены папярэдне ў пісьмах. Многія адказы на іх мы прапануем да ўвагі чытачоў зараз. Што цікава, людзі працягваюць званіць, звяртаючыся, як і напярэдадні, з просьбай, каб тую ці іншую сітуацыю патлумачыла непасрэдна Вольга Браніславаўна. Па зразумелых прычынах «Звязда» не можа прасіць міністра, падначаленыя яму службы штодня працаваць дзеля пошуку адказаў на пытанні менавіта «Звязды», яе чытачоў. І тым не меней мы пастараемся прыкласці ўсе намаганні, каб задаволіць патрэбу ў вырашэнні ўсіх клопатаў тых людзей, якія звярнуліся ў рэдакцыю. Яшчэ раз нагадваем тэлефоны аддзела сацыяльных праблем «Звязды» — 268-28-72 і 268-27-51. Званіце, пішыце нам. Вашы звароты, вашы пытанні дапамогуць вызначыць нам як мага шырэй кола пытанняў, якія турбуюць насельніцтва краіны. Мы абяцаем вам, паважаныя чытачы, што вашымі субяседнікамі — ці то зноў на «прамой лініі», ці то ў звычайных газетных інтэрв'ю — стануць дасведчаныя, кампетэнтныя дзяржаўныя чыноўнікі, у першую чаргу кіраўнікі аддзелаў і ўпраўленняў Міністэрства сацыяльнай абароны насельніцтва.**

**— Вас турбуе Максімовіч Святлана Фёдараўна. Мяне цікавіць наступнае пытанне. Ці выплачваецца падтрымка, вызначаная Прэзідэнтам для работнікаў бюджэтнай сферы ў памеры 500 тысяч рублёў, ваеннаслужачым?**

— Зараз падрыхтаваны каментарыі да адпаведнага ўказа Прэзідэнта. Але ж распрацоўшчык гэтых вельмі, як аказалася, актуальных тлумачэнняў — Міністэрства фінансаў. Таму раім вам туды і звярнуцца. Тэлефон — 222-60-30. (Зараз у газеце рыхтуецца да друку матэрыял з падрабязнымі тлумачэннямі адносна выплаты бюджэтнікам 500 тысяч. — **А.К.**)

**— Вольга Браніславаўна, з Мінска непакояць вас. Скрыпко маё прозвішча. Жыву па вуліцы Берасцянскай. Удваіх з маці. Цяжкае матэрыяльнае становішча. І маці, і я атрымліваем пенсію 19 числа. Ці нельга папрасіць, каб змянілі ў адным з выпадкаў дату?**

— Думаецца, што гэта пытанне вырашальнае. Мы звяжамся з раённым аддзелам сацыяльнага забеспячэння. Думаю, дапаможам.

**— Вольга Браніславаўна, звоніць вам кандыдат тэхнічных навук, пенсіянер Якаў Рыгоравіч Добер. Мяне цікавіць, калі ж будзе вырашана пытанне з даплатамі за вучоныя ступені пенсіянерам?**

— Безумоўна, ваша пытанне правільнае, зразумелае. Вядома, у нас ураўнілаўка з пенсіяй, аслаблены дыферэнцыраваны падыход. Але, прабачце, Якаў Рыгоравіч, што залежыць ад нас, то Міністэрства сацыяльнай абароны насельніцтва ўжо ўнесла прапановы ў Кабінет Міністраў. Дыферэнцыяцыя пенсіі, згодна з гэтымі прапановамі павінна быць палепшана, выразна акрэслена. Мы памянялі сам механізм падыходаў да налічэння пенсіі. Але тут іншая справа адыгрывае рашаючую ролю ў замаруджванні рашэння — не павялічваецца даходная частка Пенсіённага фонду. А павялічыць пенсію, не павялічыўшы даходную частку, надзвычай праблематычна. Не хочацца мне асабіста шмат абяцаць, але і ваша пытанне адносна даплаты пенсіянерам, якія маюць кандыдацкія альбо доктарскія ступені, таксама распрацавана намі і перададзена ў Кабінет Міністраў. Не ведаю, не магу сцвярджаць адназначна, што, маўляў, усё гэта будзе заўтра прынята, але, тым не меней, праца над пытаннем ідзе.

**— Вольга Браніславаўна, і ўсё ж крышачку канкрэтней хацелася б пра ўсё даведацца. Ці можам мы, вучоныя-пенсіянеры, на нешта спадзявацца?**

— Адно зараз скажу: калі ў працуючых вучоных ёсць даплата, то яна павінна захоўвацца і ў вучоных-пенсіянераў. У гэтым заключаецца наша пазіцыя, у гэтым — наша перакананне.

**— Што ж, будзем спадзявацца, што ўрад падтрымае вашы прапановы.**

— Якаў Рыгоравіч, пастаўленае вамі пытанне абсалютна правільнае. Пабагацеем — усім дадзім даплаты. Сённяшняя праблема па адной толькі прычыне — няма з чаго даваць... Як, дарэчы, ураўнілаўка і ў іншым праяўляецца. Вядома ж, было б ідэальна, каб пры налічэнні пенсіі сярэднюю заработную плату па рэспубліцы памножыць на ваш каэфіцыент і ваш працоўны стаж — вось і атрымалася б сацыяльна справядлівая пенсія. Але, як ні горка гэта прызнаваць, сёння мы можам аказаць найбольш рашучую падтрымку тым, хто мае пенсію меней 400 тысяч. А гэта ўсяго толькі 200 тысяч чалавек. А астатнія ж нешта атрымліваюць. Больш таго — створаны камісіі, і дапамагае матэрыяльна дзяржава тым, у каго і пяцьсот, і шэсцьсот тысяч. Хіба ж разавую дапамогу мы не аказваем?

Дарэмна вы, Якаў Грыгоравіч, крыўдуеце. Па Мінску пенсію не затрымліваюць. А па рэспубліцы — затрымка ўсяго на пяць-шэсць дзён, часам бывае — да дзесяці дзён. Было б з чаго плаціць — хіба ж мы затрымлівалі б? Да таго ж, звярніце ўвагу хаця б на тое, што, напрыклад, работнікі сферы сацыяльнага забеспячэння атрымліваюць заработную плату меншую, чым пенсія ў многіх. Дык каму тады трэба крыўдаваць? Такое, на жаль, сёння жыццё. Вы сабе ўявіць не можаце, колькі сродкаў запатрабавалі тры пераразлікі пенсіі. Няхай сабе і ненашмат павялічылася пенсія ў кожнага паасобку, але ж разам гэта склала велізарнейшыя сумы — па сто—дзвесце мільярдаў рублёў.

**— Савянкова вас турбуе. З Мінска. У мяне два пытанні. Першае — ці выплачваюць 500 тысяч рублёў настаўнікам, іншым бюджэтнікам, якія знаходзяцца ў дэкрэтным водпуску? І другое — быў указ аб павелічэнні дапамогі на дзяцей на 50 працэнтаў. Але мне вось, у прыватнасці, выплацілі па старому разліку, без усякага павелічэння. У чым тут справа?**

— Што да 500 тысяч, то мы ўжо на адзін са званкоў тлумачылі, што выплаты гэтай матэрыяльнай падтрымкі бюджэтнікам падрабязна каменціруюцца Міністэрствам фінансаў. А калі гаварыць пра дапамогу на дзяцей, то яна павялічваецца з 1 кастрычніка. Вам жа, відаць, выплацілі яшчэ за верасень — па старому. У лістападзе ж атрымаеце з улікам 50-працэнтнай надбаўкі.

**— Грыгор'еў Рыгор Іванавіч, інвалід ІІ-й групы. Вольга Браніславаўна, адкажыце мне, калі ласка, чаму затрымліваецца пенсія ў нас — у Пружанскім раёне?**

— Калі гаварыць пра сітуацыю з выплатай пенсіі ў рэспубліцы, то яна сапраўды складаная. У сувязі з крызісным становішчам эканомікі адлічэнні ад фонду заработнай платы прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва паступаюць несвоечасова і не ў поўным аб'ёме, што адбіваецца на тэрмінах атрымання пенсіі. Кіраўніцтвам мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў, Міністэрствам сацыяльнай абароны прымаюцца меры, накіраваныя на скарачэнне тэрмінаў выплаты пенсіі. Разам з тым неабходна напомніць, што, ў адрозненне ад заработнай платы, якая выплачваецца за мінулы месяц, выплата пенсіі ажыццяўляецца за бягучы месяц. (Ужо пасля «прамой лініі» работнікамі міністэрства было зроблена ўдакладненне канкрэтна па сітуацыі з Грыгор'евым. Як паведамілі з аддзела сацыяльнай абароны Пружанскага раённага выканаўчага камітэта Брэсцкай вобласці, затрымка з выплатай пенсіі Рыгору Іванавічу ў жніўні сёлетняга года адбылася ў сувязі з тым, што ён праходзіў паўторны агляд у медыка-рэабілітацыйнай экспертнай камісіі. У верасні пенсію выплацілі 12-га, у кастрычніку — 8 числа.)

**— І яшчэ адно пытанне. Я — інвалід ІІ групы ў сувязі з аварыяй на ЧАЭС. Ці маю я права на забеспячэнне мотакаляскай бясплатна? І якія дакументы для гэтага патрэбны? Правоў на кіраванне аўтамабілем я не маю.**

— У адпаведнасці з Палажэннем аб парадку забеспячэння інвалідаў транспартнымі сродкамі, зацверджаным пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 25 верасня 1995 года № 523, інваліды, інваліднасць якіх мае прычынную сувязь з чарнобыльскай катастрофай, пры наяўнасці медыцынскіх паказанняў на права атрымання аўтамабіля з ручным кіраваннем і адсутнасці проціпаказанняў да кіравання аўтатранспартам, маюць права на першачарговае бясплатнае забеспячэнне аўтамабілем «Таўрыя».

Выдача аўтамабіляў ажыццяўляецца толькі пры наяўнасці ў інвалідаў вадзіцельскага пасведчання. Навучанне інвалідаў кіраванню аўтамабілем з ручным кіраваннем наладжваецца органамі сацыяльнай абароны. Таму для вырашэння пытання з забеспячэннем спецаўтатранспартам вам неабходна звярнуцца да лечачых урачоў, якія пры наяўнасці падстаў накіруюць вас для агляду на абласную медыка-рэабілітацыйную камісію.

**— З Лунінецкага раёна непакояць вас. Арашкевіч — маё прозвішча. Такое пытанне: ці маю я права на штомесячную дзяржаўную дапамогу? Сітуацыя ў сям'і наступная. Мы выхоўваем траіх дзяцей школьнага ўзросту. Я не працую з 1993 года. Муж у 1995 годзе вырабіў дзве трэці мінімуму выхадаў на працу, устаноўленага калгасам, але ў верасні таго ж года быў звольнены. На ўліку ў Цэнтры занятасці ў якасці беспрацоўнага не стаяў. Ізноў быў прыняты на працу ў сакавіку таго года.**

— У адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам сям'я калгаснікаў мае права на атрыманне дапамогі на дзяцей больш 3 гадоў у тым выпадку, калі працаздольны бацька ў поўнай сям'і вырабіў за год, што папярэднічае году звяртання па дапамогу, не меней як дзве трэціх мінімума выхадаў на працу, устаноўленага калгасам, і працягвае працаваць. Адпаведна за той перыяд, калі ваш муж не працаваў, гэта значыць з верасня мінулага году па красавік сёлетняга, права на дапамогу сям'я ваша не мела. З моманту яго працаўладкавання, г. зн. з сакавіка 1996 года, дапамога на дзяцей вашай сям'і павінна быць прызначана і выплачана.

**— Басалай Аляксей Аляксеевіч. Жыву ў Мінску па праспекце Ракасоўскага. Дапамажыце праіндэксаваць уклад у ашчадным банку ці дапамажыце з ільготным крэдытам.**

— Паважаны Аляксей Аляксеевіч! Індэксацыя ўкладаў ужо праводзілася неаднаразова. Што датычыцца льготнага крэдытавання, то для вырашэння вашага пытання вам неабходна звярнуцца па месцы жыхарства ў адміністрацыю Ленінскага раёна Мінска.

**— Маркевіч Васіль Нічыпаравіч. Пражываю ў вёсцы Пагост Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Ці існуюць якія-небудзь абмежаванні ў выдачы колькасці балонаў па льготнай цане (за пяцьдзесят працэнтаў) на год для пенсіянераў за заслугі перад Рэспублікай Беларусь?**

— Паважаны Васіль Нічыпаравіч! У адпаведнасці з артыкулам 11 Закона «Аб ветэранах», ветэранам, у тым ліку і пенсіянерам за заслугі перад Рэспублікай Беларусь, якія пражываюць у дамах без цэнтральнага ацяплення, прадастаўляецца 50-працэнтная скідка з кошту паліва, якое набываецца ў межах нормаў, устаноўленых для продажу насельніцтву. Нормы продажу паліва, газу, у тым ліку і ў балонах, устанаўліваюцца аблвыканкомамі.

**— Пятрова Марыя Іванаўна. Няўжо ў нас пенсіі вышэй за сусветныя? Цэны ж даўно сусветныя...**

— Сапраўды, узровень забяспечанасці многіх пенсіянераў недастатковы, у апошні час дыферэнцыяцыя ў вызначэнні памераў пенсій крыху аслабла. Сёння «спрацоўвае» індывідуальны каэфіцыент заробку — 0,94354. У выніку пенсіянеры, якія маюць указаны альбо вышэйшы індывідуальны каэфіцыент заробку, пры астатніх роўных умовах атрымліваюць аднолькавыя пенсіі. Сітуацыя абумоўлена ў большай ступені не заканадаўчым рэгуляваннем памераў пенсій, а крызісным станам эканомікі рэспублікі. Усе грашовыя сродкі Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва, якія з'яўляюцца адзінай крыніцай для выплаты пенсій, фарміруюцца перш-наперш за кошт адлічэнняў ад фонду заработнай платы прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, а таксама абавязковых плацяжоў асоб, якія займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю. Апошнім часам у рэспубліцы склалася такая эканамічная сітуацыя, што не толькі пенсіянеры, але і значная частка працуючых грамадзян зведваюць сур'ёзныя матэрыяльныя цяжкасці па прычыне невысокай заработнай платай і несвоечасовага яе атрымання.

**— З вёскі Ракавічы Шчучынскага раёна вас турбуюць. Чаму, скажыце, калі ласка, адмянілі каэфіцыент пры налічэнні пенсіі? Зразумелая ж справа: чым вышэйшы ён быў — тым большым з'яўляўся працоўны ўклад у агульную скарбонку. Словам, па працы ацэньвалі. Сёння ж гэтага няма.**

— Нам часта задаюць гэтае пытанне. Гучала яно ўжо прыблізна ў вашым кантэксце і сёння. Удакладню яшчэ раз. Па даручэнню Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь міністэрствам падрыхтаваны і накіраваны ў Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь праект закона, у якім змешчаны прапановы, скіраваныя на дыферэнцыяцыю памераў пенсіі ў залежнасці ад працоўнага ўкладу да выхаду на пенсію. Аднак істотнае павышэнне ўзроўню пенсіі магчыма толькі з паляпшэннем спраў у эканоміцы.

**Матэрыялы «прамой лініі» падрыхтаваў да друку Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*(Працяг будзе).*

*СУСЕДЗІ*

# ЗАЎЧАСНЫ СТАРТ АЛЯКСАНДРА ЛЕБЕДЗЯ

## Апальны генерал вядзе барацьбу за крамлёўскі прастол так, нібы гэты прастол вось-вось стане вакантным

**Былы сакратар Савета бяспекі Расіі і памочнік Прэзідэнта Аляксандр Лебедзь яўна дамагаўся сваёй скандальнай адстаўкі. Яго дэманстратыўнае збліжэнне з апальным генералам-ахоўнікам Аляксандрам Каржаковым выглядала нічым іншым, як прамым выклікам Барысу Ельцыну і ўсёй урадавай камандзе, згуртаванай вакол Віктара Чарнамырдзіна.**

Прэтэнзіі Аляксандра Лебедзя на крамлёўскі прастол ні для кога не былі сакрэтам. Здаровыя амбіцыі — нармальная якасць любога палітыка, але толькі ў тым разе, калі яны не выходзяць за пэўныя рамкі і калі іх цана адпавядае (хаця б знешне) прынятым у грамадстве маральным нормам. Лебедзь жа паводзіў сябе ў апошнія тыдні так, нібы прэзідэнцкая кампанія ў Расіі пачнецца не ў 2000 годзе, а праз некалькі месяцаў.

Няпэўны стан здароўя Прэзідэнта Барыса Ельцына, цяжкая аперацыя на сэрцы, якая павінна адбыцца ў хуткім часе, зразумела, зусім не спрыяюць душэўнай раўнавазе патэнцыяльных кандыдатаў у прэзідэнты Расіі. Роля пакутніка, не зразуметага і не ацэненага Ельцыным, міратворца, які ашчаслівіў тысячы расійскіх маці, змагара з карупцыяй і злачыннасцю здольна даць Лебедзю нешта істотнае толькі ў тым выпадку, калі выбары будуць прызначаны не пазней чым праз месяц-другі. Стаўка суровага і славалюбівага генерала менавіта на такі сцэнарый развіцця падзей можа яму дорага каштаваць. Страціўшы ключавы пост у расійскім кіраўніцтве, Аляксандр Лебедзь здабывае на нейкі час народную спагаду, але адначасова і вельмі многае страчвае: штодзённую цікавасць з боку сродкаў масавай інфармацыі, высокія сувязі, магчымасць уплываць на значныя палітычныя падзеі, доступ да фінансавых крыніц...

Калі Барыс Ельцын паправіць здароўе і вернецца да паўнацэннага жыцця, час аўтаматычна пачне працаваць супраць Лебедзя. Народная любоў — з'ява зменлівая і патрабуе, каб яе пастаянна падтрымлівалі з дапамогай прэсы і грамадскасці. Сышоўшы з палітычнага Алімпа, Лебедзь праз паўгода-год ператворыцца ў аднаго з многіх няўдачнікаў прэзідэнцкай гонкі — стане ў адзін шэраг з Яўлінскім, Фёдаравым, Жырыноўскім. А народ не дужа любіць няўдачнікаў. Прыклад Жырыноўскага, які ўпусціў свой зорны час, — яркі таму доказ. Эксцэнтрычны ліберал-радыкал, які палохаў Еўропу і спакушаў легкаверных расіян цудадзейнымі рэцэптамі ўзвелічэння Расіі і хуткай расправы з ворагамі, — не дабіўшыся ўлады, вельмі хутка ператварыўся ў паяца, якога перастаў сур'ёзна ўспрымаць нават былы яго электарат.

Сітуацыя з Лебедзем выклікае асаблівую цікавасць у Беларусі ў сувязі з тым, што паміж адстаўным сакратаром Савета бяспекі Расіі і Прэзідэнтам Беларусі склаліся блізкія і даверлівыя адносіны. Аляксандр Лукашэнка быў апошнім з палітыкаў высокага рангу, з кім у апошні дзень перад адстаўкай меў сустрэчу Аляксандр Лебедзь. На імправізаванай прэс-канферэнцыі па выніках гутаркі генерал заявіў, што яго погляды і ацэнка цяперашняй сітуацыі ў Беларусі цалкам супадаюць з пазіцыяй Аляксандра Лукашэнкі. Больш таго, Лебедзь сказаў, што беларусам «пашанцавала з Прэзідэнтам» і што Аляксандр Лукашэнка, безумоўна, атрымае перамогу на рэферэндуме. Калі ж у генерала спыталі, чаму, на яго думку, беларускі Прэзідэнт не можа пацярпець паражэнне, сакратар Савета бяспекі ва ўласцівай яму афарыстычнай манеры адказаў: «Гэтага не можа быць, бо не можа быць ніколі».

Збліжэнне Аляксандра Лебедзя і Аляксандра Лукашэнкі ў многім зразумелае і натуральнае, бо абумоўлена падобнымі метадамі палітычнай барацьбы, лозунгамі, платформамі, ідэалогіяй, якой прытрымліваюцца абодва палітыкі. Аднак у кантэксце апошніх падзей і пераходу Лебедзя ў лагер апазіцыі, да палітычных праціўнікаў Ельцына і Чарнамырдзіна, гэта збліжэнне выглядае даволі двухсэнсоўна. Відавочна, што разумее гэта і беларускі Прэзідэнт, таму наўрад ці можна чакаць, што яго кантакты з апальным генералам прадоўжацца. Хоць у перспектыве старыя сувязі пры спрыяльных умовах яшчэ могуць адыграць істотную ролю ў адносінах паміж дзвюма дзяржавамі.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## ПЕРСПЕКТЫВЫ ЭКАНАМІЧНАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА

Перспектывы далейшага супрацоўніцтва ў розных сферах палітыкі, эканомікі і сацыяльнага развіцця былі абмеркаваны на пасяджэнні выканкома Супольніцтва Расіі і Беларусі, праведзеным 17 кастрычніка ў сталіцы Расійскай Федэрацыі. Усяго разгледжана 12 праблем, што датычаць развіцця дзвюх дзяржаў.

Беларуская ўрадавая дэлегацыя, якая прыбыла ў Маскву на чале з прэм'ер-міністрам Беларусі Міхаілам Чыгіром, 18 кастрычніка прыме ўдзел у пасяджэнні Савета кіраўнікоў урадаў дзяржаў СНД. Паводле інфармацыі, прадастаўленай карэспандэнту БЕЛТА Выканаўчым сакратарыятам СНД, у парадку дня пасяджэння — абмеркаванне 20 праектаў і канцэпцый у галіне эканамічнага, сацыяльнага і ваеннага супрацоўніцтва.

На пасяджэнні Савета кіраўнікоў урадаў будзе разгледжаны ход выканання пратакольнага рашэння «Аб перспектыўным плане інтэграцыйнага развіцця СНД у 1996-1997 гадах».

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

*АФІЦЫЙНА*

# УКАЗ
## Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

№ 425

**Аб стварэнні Беларускага дзяржаўнага канцэрна па вытворчасці і рэалізацыі фармацэўтычнай і мікрабіялагічнай прадукцыі**

У мэтах удасканалення структуры цэнтральных органаў кіравання, спрашчэння кіруемасці прадпрыемствамі фармацэўтычнай і мікрабіялагічнай прамысловасці і паскарэння іх мадэрнізацыі **пастанаўляю**:

1. Стварыць Беларускі дзяржаўны канцэрн па вытворчасці і рэалізацыі фармацэўтычнай і мікрабіялагічнай прадукцыі (канцэрн «Белбіяфарм»), ліквідаваўшы Камітэт хімічнай і мікрабіялагічнай прамысловасці Міністэрства прамысловасці.

Уключыць у састаў Беларускага дзяржаўнага канцэрна па вытворчасці і рэалізацыі фармацэўтычнай і мікрабіялагічнай прадукцыі прадпрыемствы і арганізацыі, якія знаходзяцца ў рэспубліканскай уласнасці, згодна з дадаткам і падпарадкаваць гэты канцэрн Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь.

2. Устанавіць, што кіраванне (у межах, устаноўленых заканадаўствам) прадпрыемствамі і арганізацыямі Беларускага дзяржаўнага канцэрна па вытворчасці і рэалізацыі фармацэўтычнай і мікрабіялагічнай прадукцыі, якія знаходзяцца ў рэспубліканскай уласнасці, у частцы зацвярджэння іх статутаў, найму кіраўнікоў, кантролю за эфектыўнасцю выкарыстання і захаванасцю дзяржаўнай маёмасці, прыняцця рашэнняў аб рэарганізацыі і ліквідацыі ўказаных прадпрыемстваў і арганізацый, а таксама аб стварэнні такіх прадпрыемстваў і арганізацый ажыццяўляецца гэтым канцэрнам.

Адчужэнне ўказанымі прадпрыемствамі і арганізацыямі асноўнага тэхналагічнага абсталявання, а таксама стварэнне імі даччыных прадпрыемстваў і арганізацый праводзіцца ва ўстаноўленым парадку са згоды канцэрна.

3. Беларускаму дзяржаўнаму канцэрну па вытворчасці і рэалізацыі фармацэўтычнай і мікрабіялагічнай прадукцыі з удзелам зацікаўленых міністэрстваў і іншых цэнтральных органаў кіравання ў двухмесячны тэрмін забяспечыць распрацоўку праекта статута канцэрна і вырашэнне ва ўстаноўленым парадку іншых пытанняў, звязаных з яго стварэннем.

4. Выключыць абзац адзінаццаты пункта 5 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 23 верасня 1994 г. № 122 «Аб змяненні структуры цэнтральных органаў кіравання Рэспублікі Беларусь» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1994 г., № 6, арт.144).

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

15 кастрычніка 1996 г., г. Мінск.

**Дадатак да Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 15 кастрычніка 1996 г. № 425**

**ПЕРАЛІК**

**прадпрыемстваў і арганізацый, якія ўключаюцца у састаў Беларускага дзяржаўнага канцэрна па вытворчасці і рэалізацыі фармацэўтычнай і мікрабіялагічнай прадукцыі**

Беларускае дзяржаўнае малое прадпрыемства «Экзон»
Бабруйскі гідролізны завод
Барысаўскі завод медыцынскіх прэпаратаў
Гомельскі завод хімічнага мелу
Гродзенскі завод медыцынскіх прэпаратаў
Завод «Ізатрон»
Мазырскі завод кармавых дражджэй
Нясвіжскі завод медыцынскіх прэпаратаў
Наваполацкі завод бялкова-вітамінных канцэнтратаў
Пінскі завод кармавых вітамінаў
Прадпрыемства дыягнастычных і лекавых прэпаратаў «Дыялек»
Рэчыцкі доследна-прамысловы гідролізны завод
Навукова-даследчы і праектна-канструктарскі медыка-біятэхналагічны інстытут
Адкрытае акцыянернае таварыства «Белмедпрэпараты».

# РАСІЯНЕ ЎСПОМНІЛІ ПРА БЕЛАРУСКУЮ БУЛЬБУ

Намнога лепш, чым у мінулым годзе, ідуць справы з рэалізацыяй вырашчанага ўраджаю ў земляробаў Іванаўскага раёна. Дамовіўшыся ў асноўным з расійскімі спажыўцамі і мясцовымі чыгуначнікамі, яны толькі за апошнія тры тыдні загрузілі і адправілі 74 вагоны з бульбай і агароднінай. Кожны чацвёрты з іх адправіўся ў Краснадар, чатыры вагоны — у Малдову, а астатнія — у Маскву і Санкт-Пецярбург. Прычым чыгуначнікі прадаставілі аграрнікам на гэты гарачы час 30-працэнтную скідку на транспартныя паслугі.

**Іван КУКСА, БЕЛТА.**

# ЗВАРОТ
## Прэзідыума Вярхоўнага Савета да Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь

Паважаныя члены Кабінета Міністраў!

Прэзідыум Вярхоўнага Савета вымушаны канстатаваць, што цяпер палітычны крызіс у грамадстве, на жаль, працягвае паглыбляцца. Адна з яго асноўных прычын — рознагалоссі паміж галінамі ўлады па пытанню змянення канстытуцыйных асноў дзяржавы.

Вярхоўны Савет прапанаваў рэальнае і, відаць, адзіна прымальнае для абодвух бакоў рашэнне — «нулявы» варыянт, гэта значыць адкліканне абодвух праектаў Канстытуцыі. Прэзідыум Вярхоўнага Савета пацвярджае сваё нязменнае імкненне спыніць процістаянне шляхам узаемных уступак і кампрамісаў.

Па нашаму глыбокаму перакананню, пакуль кампраміс магчымы. У адпаведнасці з дзеючай Канстытуцыяй 1994 года ўсе галіны дзяржаўнай улады незалежныя і роўныя. Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь яшчэ раз заяўляе, што парламент не вядзе барацьбы з іншымі галінамі ўлады. Паслядоўна абараняючы Асноўны закон, ён толькі настойваў і настойвае на няўхільным захаванні Канстытуцыі і заканадаўства краіны. Мы і цяпер спадзяёмся, што агульнымі намаганнямі зможам павярнуць ход падзей у прававым напрамку.

Абавязковай умовай для нармалізацыі абстаноўкі з'яўляецца захаванне прынцыпу падзелу ўладаў. У сувязі з гэтым звяртаем вашу ўвагу на факты, якія сталі вядомы Прэзідыуму Вярхоўнага Савета. Некаторыя члены Кабінета Міністраў, прадстаўнікі выканаўчай улады на месцах сваімі дзеяннямі ўмешваюцца ў кампетэнцыю заканадаўчай галіны ўлады і тым самым ускладняюць вырашэнне палітычнага крызісу. Праяўляецца гэта таксама ў відавочным націску на дэпутатаў з мэтай схіліць іх да прыняцця пэўных рашэнняў, жаданых аднаму боку.

Гэты зварот да кіраўніцтва і членаў Кабінета Міністраў Прэзідыум Вярхоўнага Савета лічыць яшчэ адным неабходным крокам для спынення эскалацыі напружанасці ва ўзаемаадносінах заканадаўчай і выканаўчай уладаў.

**Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

17 кастрычніка 1996 г., г. Мінск.

# ХЛЕБ — НАША БАГАЦЦЕ. ХЛЕБ «СТАРАЖЫТНЫ» — ЯШЧЭ І НАША ЗДАРОЎЕ

На сталічным хлебазаводзе № 1 днямі ў значнай ступені пашырыўся асартымент выпускаемай прадукцыі. Адзін з цэхаў прадпрыемства наладзіў выпуск зерневага хлеба «Старажытны».

Здаецца, нічога дзіўнага не адбылося. На паліцах нашых магазінаў з'явіўся новы від хлебабулачных вырабаў. Аднак, як аказваецца, што хлеб гэты не зусім звычайны. Медыкі характарызуюць яго якасці так:

— паўнацэнны прадукт харчавання для ўсіх груп насельніцтва;

— лячэбны прадукт пры атлусценні, цукровым дыябеце, атэрасклерозе, хваробах страўнікава-кішачнага тракту;

— эфектыўны сродак для вывядзення з арганізма солей цяжкіх металаў, радыенуклідаў для жыхароў чарнобыльскай зоны.

На звычайнай бытавой мове пакупнікоў хлеб «Старажытны» значна больш карысны для здароўя любога чалавека ў параўнанні з іншымі відамі гэтай прадукцыі.

Ён вырабляецца з цэлага, прарослага зерня пшаніцы па арыгінальнай тэхналогіі. Пры гэтым зерне не перапрацоўваецца на муку, а здрабняецца ў спецыяльных дыспергатарах, што дазваляе поўнасцю захаваць усе карысныя рэчывы, якія знаходзяцца ў зерні: бялкі, амінакіслоты, вітаміны груп В, РР, Е, зародак зерня, макра- і мікраэлементы, харчовую клятчатку і харчовыя валокны.

На прэзентацыі новага віду хлеба генеральны дырэктар аб'яднання «Мінскхлебпром» Юрый Сцяпенка зазначыў, што хлеб — наша багацце, а хлеб «Старажытны» — яшчэ і наша здароўе. І вельмі добра, што ў рэспубліцы пры дарагоўлі вітамінных прадукцыі і якасных, але дарагіх прадуктах харчавання з'явілася універсальная, а галоўнае — танная прадукцыя, багатая вітамінамі і рознымі карыснымі рэчывамі, што немалаважна пры сённяшніх фінансавых магчымасцях большасці нашых людзей.

Пакуль на заводзе ў змену будзе выпрацоўвацца да 500 кг навінкі. Праўда, гэтага, нават па самых сціплых падліках, яўна недастаткова не толькі для здаровага на страўнік насельніцтва, але і для людзей, у якіх хворая нервовая сістэма, органы кровазвароту і скура, якія пакутуюць ад цукровага дыябету, жоўцекамянёвай хваробы, ішэмічнай хваробы сэрца і многіх іншых хвароб.

Па словах работнікаў хлебазавода № 1, магутнасці завода па выпуску «Старажытнага» хлеба не абмежаваны. Усё будзе залежаць ад пакупнікоў.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# УКАЗ
## ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 426

**Аб узнагароджанні Е. Сасакавы медалём Францыска Скарыны**

За значны ўклад у ажыццяўленне праграм па аказанню гуманітарнай дапамогі грамадзянам Рэспублікі Беларусь, пацярпеўшым ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, узнагародзіць прэзідэнта Японскага мемарыяльнага фонду аховы здароўя імя Сасакавы Ехэя Сасакаву медалём Францыска Скарыны.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

17 кастрычніка 1996 г., г. Мінск.

*ТРЭЦЯЯ ЎЛАДА*

# «НАРОДНАЯ ГАЗЕТА» ВЕРНЕЦЦА ПАД КРЫЛО ПАРЛАМЕНТА?

Каля чатырох месяцаў заставаўся няпэўным статус «Народнай газеты», заснавальнікам якой у 1990 годзе выступіў Вярхоўны Савет. Увесь гэты час парламент дамагаўся вяртання свайго друкаванага органа, які, паводле ўказа Прэзідэнта ад 28 чэрвеня г. г., быў пераўтвораны ў закрытае акцыянернае таварыства. Згодна з указам, 70 працэнтаў акцый «Народнай газеты» перадавалася ва ўласнасць Рэспублікі Беларусь і магло быць адчужана толькі са згоды Прэзідэнта.

Аляксандр Лукашэнка не ўзгадняў гэтыя свае дзеянні з Вярхоўным Саветам. Як не ўзгадняў ён і кандыдатуру новага галоўнага рэдактара газеты. Усё гэта завязала яшчэ адзін канфліктны вузельчык ва ўзаемаадносінах заканадаўчай і выканаўчай улады. Развязаць яго паспрабаваў Канстытуцыйны суд.

На працягу двух дзён, 15 і 17 кастрычніка, у судзе працягваліся адкрытыя слуханні па гэтай праблеме. Разглядаўся не толькі ўказ № 233 ад 28 чэрвеня, але і змены, унесеныя ў гэты дакумент указам ад 14 кастрычніка г. г. (Паводле новага ўказа, закрытае акцыянернае таварыства пераўтворана ў адкрытае, а доля дзяржавы ў статутным фондзе зменшана з 70 да 51 працэнта.)

Судовы працэс суправаджаўся настойлівымі спробамі прадстаўнікоў прэзідэнцкага боку дабіцца, каб слуханні былі перанесены на іншы, больш позні тэрмін. 15 кастрычніка прадстаўнік Прэзідэнта — намеснік начальніка ўпраўлення прававога забеспячэння Адміністрацыі Аляксандр Пласкавіцкі — унёс ажно сем такіх хадайніцтваў. Усе яны былі адхілены як беспадстаўныя. 17 кастрычніка да іх дабавіліся яшчэ два.

У сваім восьмым хадайніцтве Пласкавіцкі заявіў, што Канстытуцыйны суд павінен неадкладна спыніць працэс да таго часу, пакуль старшыня суда Валерый Ціхіня не падасць у адстаўку альбо не зменіць сваю пазіцыю адносна гэтай справы. Паводле слоў Пласкавіцкага, напярэдадні Ціхіня тэлефанаваў яму, патрабаваў, каб ён не прыходзіў у залу суда, называў нягоднікам і подлым чалавекам. Усё гэта, як сцвярджаў Пласкавіцкі, старшыня Канстытуцыйнага суда зрабіў дзеля таго, каб псіхалагічна «націснуць» на прэзідэнцкіх юрыстаў і дэмаралізаваць іх.

Гэта заява выклікала гул у зале. Цяжка ўявіць, што заўсёды вытрыманы, строгі, карэктны Валерый Ціхіня раптам выкарыстоўваў бы такія метады ў сваіх адносінах з калегамі. У перапынку я пацікавіўся ў Аляксандра Пласкавіцкага, чым была выклікана размова, пра якую ён гаварыў у судзе. Пласкавіцкі адказаў, што імідж Ціхіні, які склаўся ў грамадстве, — гэта падман. На самай жа справе ён, Пласкавіцкі, быў студэнтам на юрыдычным факультэце ў тыя часы, калі дэканам там працаваў Ціхіня, і ён нібыта выдатна ведае, на што здольны былы дэкан.

Не менш гучным было і другое хадайніцтва. Прадстаўнікі Прэзідэнта заявілі, што ў самы апошні момант яны атрымалі дакументы ад Віктара Шэймана з Савета бяспекі, якія напрамую датычаць дзейнасці Канстытуцыйнага суда. Адмаўляючыся даць звесткі пра змест гэтых дакументаў, прадстаўнікі Прэзідэнта, тым не менш, запатрабавалі спыніць разгляд справы.

Але і гэтае хадайніцтва было адхілена.

У другой палове дня 17 кастрычніка Канстытуцыйны суд вынес рашэнне: абодва прэзідэнцкія ўказы па «Народнай газеце» прызнаны супярэчнымі Канстытуцыі і законам. Такім чынам, акцыяніраванне прызнана незаконным і «Народная газета» павінна быць вернута Вярхоўнаму Савету.

Наўрад ці можна спадзявацца на тое, што ў сённяшняй сітуацыі рашэнне суда будзе выканана. Аднак з пункту гледжання закона кропка ў гэтай справе пакуль пастаўлена. Усё астатняе — праблемы канкрэтных асоб. І вырашыць гэтыя праблемы можа толькі час.

**Валянцін ЖДАНКО.**

*СКАНДАЛ*

# МІНСКІ КЛУБ «ЦІВАЛІ» АБВІНАВАЧВАЮЦЬ У ДАМОЎЛЕНАЙ ГУЛЬНІ

**Прайшоўшыя ў мінулыя выхадныя ў Наваполацку чвэрцьфінальныя гульні Кубка Еўропы па хакею не толькі вызначылі паўфіналістаў, але і далі добры пажытак для аматараў скандальнай хронікі.**

На адной з прэс-канферэнцый галоўны трэнер усць-каменагорскай каманды «Тарпеда» Барыс Аляксандраў афіцыйна заявіў, што год назад у Венгрыі, падчас гульняў 1/4 фінала, кіраўніцтва мінскага «Цівалі» дамовілася са сваімі казахстанскімі калегамі згуляць матч унічыю (што, дарэчы, і адбылося). Такі вынік выводзіў і «цівалят» і «ўсцінку» ў наступны этап.

— Гэта ж трэба мазгоў не мець, каб рабіць такія заявы, — сказаў нам учора адзін з кіраўнікоў мінскага клуба Аляксандр Дудар. — Па-першае, нічыя тады яшчэ зусім не адчыняла вароты ў паўфінал, таму перамога была патрэбна і нам, і тарпедаўцам. Па-другое, калі вы раскрываеце такія сенсацыі, то зусім не выключана, што можа грымнуць і яшчэ адна «бомба» — Міжнародная федэрацыя хакея мае права элементарна дыскваліфікаваць «Тарпеда», якое прызнала факт дамоўленасці гульні. Па-трэцяе, ці будзе разумны чалавек, які, скажам, узяў хабар, крычаць аб гэтым на скрыжаванні? Па-чацвёртае, і, што галоўнае, дзе дакументальныя доказы?

Сам Барыс Аляксандраў сказаў карэспандэнту «Звязды» літаральна наступнае:

— Тое, што гульня была дамоўленай, — маё асабістае меркаванне. У той сустрэчы я не гуляў (тады ён быў яшчэ іграком «Тарпеда». — **Аўт.**) і глядзеў матч з трыбуны. Дык вось, на мой погляд, наша каманда на дзве галавы пераўзыходзіла мінскую, аднак не перамагла. І зусім не па гульні.

— Акрамя сваіх меркаванняў у вас ёсць нейкія доказы?

— А адкуль яны могуць у мяне быць? Доказы трэба шукаць у таго галоўнага трэнера, які на той час кіраваў «Тарпеда».

Цяжка сказаць, чым закончыцца справа, аднак першыя «ластаўкі» ўжо паляцелі. Пазаўчора «Цівалі» адмовіла тэлебачанню ў трансляцыі матча Усходнееўрапейскай лігі з Гродна і толькі ў апошні момант «злітасцівілася». Нам жа застаецца толькі задаваць сабе пытанне: ці бывае дым без агню?

**Алесь СІВЫ.**

# ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Інцыдэнт на вясковай дарозе ў французскім дэпартаменце Верхнія Пірынеі, у ходзе якога пацярпеў матацыкліст, які паслізнуўся на каровінай ляпёшцы, стаў прадметам судовага разбору. Няўважлівы матацыкліст абвінаваціў улады ў тым, што яны не абазначаюць папераджальнымі знакамі тыя ўчасткі дарогі, па якіх пераганяюць жывёлу. Суд абавязаў савет дэпартамента кампенсаваць страты пацярпеўшаму, выплаціўшы яму 27 тысяч франкаў, і ўстанавіць адпаведныя дарожныя знакі. Старшыня савета дэпартамента палічыў, што такое рашэнне не пазбаўлена пачуцця гумару, хоць і абыдзецца падаткаплацельшчыкам у капеечку.

**Рэйтэр**

Мост праз Гібралтар, які павінен злучыць Іспанію з Марока, Еўропу і Азію і які зараз існуе ў праекце, будзе самым доўгім у свеце — 27 кіламетраў. Ён падымецца на вышыню 100 метраў над узроўнем мора і будзе валодаць вялікай прапускной здольнасцю: па ім пракладуць дзве чыгуначныя каляіны і тры паласы для руху аўтатранспарту.

**«Комсомольская правда»**

У Курганінску Краснадарскага края бацька забіў сына, прыняўшы яго за рабаўніка. Страшная гісторыя здарылася ноччу. 23-гадовы малодшы сяржант міліцыі, слухач юрыдычнага інстытута МУС Расіі, прыехаў з Краснадара ў Курганінск. Ён не змог папасці ў дом, які знаходзіцца ў прыватным сектары, паколькі брамка была зачынена. Курсант вырашыў пералезці праз плот. Бацька, прыняўшы яго за рабаўніка, выстраліў у яго і трапіў у галаву.

**«Інтэрфакс»**

# Віншаванні

✿ *Віншуем з юбілейным днём нараджэння Галіну Васільеўну Камякову, дырэктара Праскурнянскай сярэдняй школы Жлобінскага раёна. Жадаем моцнага здароўя, творчых поспехаў у працы і доўгіх шчаслівых гадоў жыцця.*

**Бацькі вучняў Праскурнянскай сярэдняй школы.**

✿ *Віншуем Вячаслава Захарчука з 20-годдзем і нараджэннем сына. Жадаем сыну і ўнуку моцнага здароўя, доўгіх шчаслівых гадоў жыцця.*

**Мама, Наташа, в. Шчэпічы.**

✿ *Віншую любімую дачушку Алесю Пятроўну Літвінчук з днём нараджэння. Жадаю моцнага здароўя, шчасця.*

**Бацька, г. Мінск.**

✿ *Дарагая мамачка і бабуля Любоў Іосіфаўна Харытонік з в. Заполле! Віншуем цябе з днём нараджэння. Жадаем здароўя, шчасця і доўгіх, бадзёрых гадоў жыцця.*

**Дзеці, унукі.**

✿ *Сардэчна віншуем сына Уладзіміра Уладзіміравіча Рака з 40-годдзем. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у працы і доўгіх гадоў жыцця.*

**Мама і тата, г. Любча.**

✿ *Віншуем з днём нараджэння Алену Манкелевіч, Яўгена Ізідавіча і Вацлава Ізідавіча Вейкшнараў. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, радасці, доўгіх гадоў жыцця.*

**Сям'я Вейкшнараў і Манкелевічаў, в. Гожа.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.44 | 18.05 | 10.21 |
| Віцебск – | 7.36 | 17.53 | 10.17 |
| Магілёў – | 7.33 | 17.55 | 10.22 |
| Гомель – | 7.29 | 17.53 | 10.24 |
| Гродна – | 8.00 | 18.19 | 10.19 |
| Брэст – | 7.56 | 18.25 | 10.29 |

### МЕСЯЦ

**Першая квадра 19 кастрычніка**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Апостала Фамы. К. Яна, Ізаака, Паўла.**

### НАДВОР`Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам дождж. Тэмпература паветра ў Віцебску, Гродне — 10—12, Брэсце, Мінску, Магілёве, Гомелі — 11—13 градусаў.

У наступныя двое сутак чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі па рэспубліцы пройдуць кароткачасовыя дажджы. 20-га ўначы дажджы на большай частцы тэрыторыі рэспублікі. Тэмпература ўначы 20-га — 3—8, 21-га — мінус 1—плюс 4, удзень — 8—13 градусаў цяпла.

СІТУАЦЫЯ

# ЧУЖАЯ РАДНЯ,

## ці Пра тое, як Тамара Сцяпанаўна не толькі засталася без грошай і кватэры, але і была абвінавачана ў махінацыях

**КВАТЭРНАЕ ПЫТАННЕ псуе не толькі характары людзей, але і іхнія стасункі з Законам ды ягонымі служкамі. Рыхтуючыся расказаць гэту гісторыю, задумаўся пра лепшы пераклад расійскага слова «мошенник», якое стала звычайным і папулярным сёння паняццем. Слоўнік падае так: «махляр, круцель, шэльма». Дадам яшчэ адно — «прайдзісвет». Прадчуванне не падманула. Гэтымі сінонімамі прыйшлося карыстацца не раз.**

**1**

Мінчанін К. вырашыў купіць кватэру. Сабраў пэўную суму, нешта пазычыў у сябра. Дапамог і бацька. Балазе, ужо некалькі гадоў працуе за акіянам. Сам К. жыве з маці, жанаты. Пры жаданні і адпаведных схільнасцях сёння чалавек можа зарабіць. І купіць жыллё. Прапаноў безліч і на розны густ. К. свой родны Паўднёвы Захад вырашыў не пакідаць і ўсе пошукі двухпакаёўкі — грошай хапала толькі на яе — вяліся тут.

Першая сустрэча з прадаўцом адбылася летась у ліпені. Можна было б абмінуць гэты факт, але ён — ілюстрацыя дасведчанасці і асцярожнасці сям'і. І найперш маці, якая некалі 12 гадоў адпрацавала ў кватэрным упраўленні. Першая прапанова паступіла ад былога вайскоўца, палкоўніка. Жыллё пакупнікоў задавальняла. Тамара Сцяпанаўна вырашыла пераправерыць дакументы. І аказалася — у ордэры акрамя гаспадара ўпісаны яшчэ і сын, які цяпер служыць у войску. А раптам вернецца адтуль і прад'явіць прэтэнзіі? Адмовіліся.

Іншыя спробы мелі такі ж вынік. Тады звярнуліся ў адно з агенцтваў, адкуль праз нейкі час паведамілі: ёсць прымальны варыянт. Кошт — 13,5 тысячы долараў. Агледзелі кватэры. Сэрца маці як чула.

— Не купляй! — угаворвала сына, прыкінуўшы, колькі грошай трэба яшчэ ўкласці ў рамонт.

Не згадзіўся. Але пакупку Тамара Сцяпанаўна афармляла на сябе. Растлумачыла шчыра: раптам сынава сям'я распадзецца? Пачнецца несправядлівая дзяльба. Вядома, логіка свекрыві. Але логіка часта вельмі слушная...

Афармілі ўсе патрэбныя дакументы. У бюро інвентарызацыі, з натарыусам.

Хоць гаспадар рэчы яшчэ не ўсе забраў (так дамовіліся раней), узяліся за рамонт. Пазрывалі старыя шпалеры, ададралі плітку, паставілі новыя ўваходныя дзверы, завезлі будматэрыялы. Працавалі вечарамі. У адзін з іх нехта пачаў барабаніць у дзверы. Гучна і з мацюкамі. Адчынілі. Заходзіць сталы чалавек і кідаецца ледзь не з кулакамі:

— Вымятайцеся з маёй хаты!..

**2**

Цяперашнім часам мы калі нечаму і здзіўляемся, дык гэта добрым навінам. Махлярствы ж рознага роду — будзённая справа. Больш таго — ледзь не норма. Ды розныя прайдзісветы дураць па-ранейшаму даверлівых і недасведчаных у махлярстве людзей. Гэта недасведчаных. Тамару Сцяпанаўну даверлівай не назавеш. Дый досведу, як ужо казаў, ёй не бракуе. Таму сярод мноства кватэрных афер яе гісторыя і выдзяляецца. І не так самой фабулай, як тымі адгалінаваннямі, што ўзніклі з часам.

Чалавек, які шумеў вечарам, аказаўся дзядулем прадаўца. У свой час гэта двухпакаёўка і належала яму. Ёсць у яго акрамя ўнука і дачка. Жылі тыя ў чатырохпакаёвай кватэры. Перагаварылі з дзядулем, і ён адпісаў кватэру ўнуку — Філіпу. Сам жа прапісаўся ў дачкі. З часам пераехаў жыць да жанчыны. (Не выношу слова «сужыцелька».) Сваяцкі абмен адбыўся ў 1992 годзе. Маюцца адпаведныя дакументы.

Пра гэта пакупнікі ведалі. Але не было ім вядома, што ў маі 1995 года свет пабачыла грамадзянская справа аб прызнанні таго — трохгадовай даўнасці — абмену несапраўдным. Ініцыятар — дзядуля. Растлумачыў колішнюю дамову тым, што не ўсведамляў тое, што рабіў. І медыцынскае заключэнне прадставіў.

Але чаму ж вырашыў аспрэчваць праз тры гады? І даведка з Навінак праз той жа час.

Нагода вытлумачальная: ёсць у П. яшчэ і сын. Валерый Дзмітрыевіч стаў нібыта абараняць інтарэсы бацькі. Гэта ў класікаў адсутнічаюць сюжэты пра сямейныя драмы з жыллём. Я ж памятаю з дзяцінства, як тата з братамі прадавалі дзядулеву хату. Да сённяшняга дня не-не ды пачнуць спрачацца.

Тамара Сцяпанаўна накіравалася ў суд. Там пацвердзілі факт наяўнасці справы. Да таго ж у іскавай заяве была просьба налажыць арышт на кватэру.

**3**

Нікуды не дзецца, мы — «вінцікі» чалавечага грамадства. Усё быццам ідзе добра. Ды раптам прабуксоўка, а то і стопар. Бо «вінцік» той своечасова не замянілі, ці не змазалі належным чынам. Альбо не падмазалі...

Суддзя не падала своечасова даных аб існаванні іску ў бюро тэхнічнай інвентарызацыі. Калі б яна гэта зрабіла — ніхто б кватэру не купляў. Засталіся б цэлымі і грошы, і нервы.

Суддзя — не махлярка, не прайдзісветка, не круцелька. Яна проста нешта не дагледзела. Службовая нядбайнасць парадзіла жыццёвую драму...

Маскоўскі суд колішні абмен сваякоў прызнаў несапраўдным. У красавіку гарадскі суд не пагаджаецца з рашэннем раённых калег, паколькі не ўлічаны інтарэсы «трэцяга боку».

Трэці бок — Тамара Сцяпанаўна. Пакуль сваякі сварыліся і станавіліся ўсё больш чужымі адзін для аднаго, яна засталася і без грошай, і без кватэры. Нават без будматэрыялаў, якія знаходзіліся там. Валерый Дзмітрыевіч пасля суда замяніў замок, бацька засяліўся назад. Будматэрыялы тады і зніклі. Тамара Сцяпанаўна звярнулася ў міліцыю. Дасюль шукаюць. Ужо і справу прыкрылі. Умяшалася пракуратура рэспублікі. Цяпер гэта пытанне пад кантролем. Прызнаюся — менавіта ў пракуратуры мне і расказалі пра нягоды гэтай жанчыны.

**4**

Бясспрэчна, унук Філіп — махляр. Ведаў пра іск, а хату прадаў.

Тамара Сцяпанаўна сустрэлася з маладым чалавекам і ягонай маці. Грошай тыя не вярнулі, частку ўжо патрацілі. А пасля Філіп увогуле прапаў. Высветлілася — пад следствам. Нібыта за падробку чэкаў. А падаў на яго родны дзядзька, Валерый Дзмітрыевіч. Недалюблівае ён пляменніка.

— Яны паміж сабою судзяцца, сварацца, — гаворыць Тамара Сцяпанаўна. — А ў пройгрышы застаюся я.

Не толькі ў пройгрышы. Валерый Дзмітрыевіч звяртаецца да дэпутата гарсавета Якава Анапрыенкі. І тады той — афіцэр Маскоўскага РАУС — пачынае дасылаць у розныя судова-пракурорскія інстанцыі новыя паперы. На гэты раз з абвінавачаннямі Тамары Сцяпанаўны і натарыуса ...у кватэрных махінацыях.

Пераказваць іх — час губляць. Шкада паперы. Бо пасля таго як жанчыну выклікалі нават у аддзел па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю, яна пайшла да кіраўніцтва райаддзела. Пісаніна дэпутата-міліцыянера скончылася прабачэннямі ў прысутнасці свайго начальства. Камісія гарсавета таксама асудзіла ягоныя дзеянні.

— Навошта мне прабачэнні? — не разумее Тамара Сцяпанаўна. — Ён мне не на нагу наступіў, а на душу.

Сапраўды, чалавека абвінаваціць лёгка. Цяжэй даказаць адваротнае. Усё роўна пры гэтым складваецца думка: «Нездарма шум узняўся. Значыць, нешта не так». Несумленныя людзі гэта ведаюць і карыстаюцца.

**5**

Адзін з суддзяў не таіўся:

— Тамара, ёсць 99 спосабаў, як вырашыць пытанне без суда...

Даў зразумець — хутчэй бандыт дапаможа, чым закон. Страшна прызнацца ў слушнасці гэтай рэальнасці. Але яно так. Тамара Сцяпанаўна прызналася: ёй тэлефанавалі некалькі разоў, пагражалі.

Чаму? Бо не сядзіць склаўшы рукі. Ходзіць па судах, нават адвакату плаціць. Яна выдатна ведае, як няпроста будзе вярнуць грошы, калі кватэру адсудзіць дзядуля. Закранута ўжо і годнасць. Неяк ён звярнуўся ў міліцыю са скаргай, што напярэдадні пабілі міліцыянеры, дачка і Тамара Сцяпанаўна. Апраўдаліся. Страчана яшчэ мноства нервовых клетак. Затое засталіся злосць і крыўда.

Пытаю:

— А па суду нельга грошы вярнуць?

— Працэс зацягнецца гадоў на 20...

Памятаеце фільм «10 гадоў без права перапіскі?» Галоўны герой хацеў адпомсціць фактычнаму забойцу бацькі. На прапанову сябра «прышыць» дзе-небудзь за вуглом ён крычаў: «Толькі па закону, па Канстытуцыі!» Скончыўся фільм пісталетным выстралам...

Дзе гарантыя, што не дойдзе да крайніх мераў? Тым больш, дайшло да мяжы, калі не разбіраюць ні вінаватых, ні тых, хто меў рацыю. Злосць ніколі не была дарадцай, але заўсёды — стымулятарам бедаў. Адно супакойвае: я напісаў гэтыя радкі і тым самым нібы і адвёў такую раскладку. Прадбачлівасць можа стаць гарантам. Хаця судовым інстанцыям нельга так — аж на чатыры месяцы — зацягваць справу. Час — не толькі грошы, але і адлік будучых рашэнняў і дзеянняў.

Крыўдна, абсурдна. Усё ж адбылося з-за адной нядбайнасці слугі Феміды і пазык шэльмы Філіпа. А мо галоўная прычына — у неразуменні людзьмі значнасці сваяцкіх адносінаў, у неразуменні таго, што недавер і махлярства родных людзей іх назаўсёды зробіць чужымі?..

**Міхась ТАЛОЧКА.**

**P. S. У матэрыяле напачатку былі ўказаны ўсе без выключэння прозвішчы. Напярэдадні публікацыі Тамара Сцяпанаўна зайшла ў рэдакцыю і папрасіла іх не называць. Жанчына яшчэ верыць, што ўсё закончыцца агульнай дамоўленасцю і баіцца, каб указанне прозвішчаў у артыкуле не нашкодзіла справе.**

# РАБОЧАЯ СЯМ'Я Ў СУЧАСНЫМ ВЫМЯРЭННІ. УЧОРА І СЁННЯ

**Косця і Света (так завуць маіх знаёмых) — рабочыя Мінскага трактарнага завода. Ён — выпрабавальнік, яна — камп'ютэршчыца. Адным словам — сучасная працоўная сям'я, якая, па іх жа словах, трапіла зараз ва ўмовы выжывання. Трывожныя моманты з'яўлення вялізных дзірак у сямейным бюджэце ўзніклі дзесьці гады два-тры таму. Тады адбылося незразумелае і дзівоснае — заробак затрымалі на два тыдні. Усе хадзілі разгубленыя і сумна паціскалі плячыма...**

**Зараз пра тыя часы ўсе трактаразаводцы ўспамінаюць з цеплынёй і зайздрасцю — атрымлівалі неблагія заробкі і, што самае галоўнае, своечасова. Сёння праблема атрымання заработнай платы паўстала з асаблівай вастрынёй. Бо грошы, як вядома, валяюцца на дарозе вельмі рэдка. Ды і магчымасць прыпрацоўкі з'яўляецца не кожны дзень.**

### БЮДЖЭТ

Ён плануецца даволі стыхійна, бо загадваць нават на тыдзень наперад, вызначаць дзень атрымання заробку зараз складана. Калі з'яўляюцца нейкія грошы, то разыходзяцца яны вельмі хутка. Патрэб шмат. Перш за ўсё дзеці-школьнікі (старэйшаму — восем, малодшаму — сем гадоў). Трэба ж іх апрануць, набыць самыя неабходныя прылады — ручкі, сшыткі, алоўкі і гэтак далей. Усё гэта каштуе зараз нятанна. Да таго ж старэйшы сын займаецца дадаткова англійскай мовай — таксама патрэбна пэўная сума. Харчаванне, плата за камунальныя паслугі...

Плаціць за нешта даводзіцца амаль штодня, а грошы паступаюць на «сямейны рахунак» даволі стыхійна. Заробак трактаразаводцаў залежыць ад графіка працы. Летам былі заказы на прадукцыю — працавалі пяцідзёнку (і атрымлівалі адпаведна), зараз заказаў няма — таму наведваюць завод не часцей чым два разы на тыдзень.

Што датычыцца рэальных даходаў, то яны складаюць дзесьці крыху больш за паўтара мільёна беларускіх «зайцоў». Няшмат, але прыходзіцца дзяліць іх на ўсе расходы. Абмяжоўваючы сябе ва ўсім, адмаўляючыся нават ад самага неабходнага. Усталёўваюць спіс прыярытэтаў: калі вопратка яшчэ можа «пратрымацца» пэўны час, то набываюць нешта іншае, у чым ёсць першачарговая патрэба.

Вельмі цяжка было пасля адпачынку — тут справа не ў псіхалагічных аспектах, а ў матэрыяльных. Бо за месяц атрымалі толькі трыста тысяч. Вось і жыві на іх з сям'ёй. Балансуй на мяжы выжывання.

### ВОЛЬНЫ ЧАС

Яго зараз з'явілася шмат. Калі не трэба ісці на прадпрыемства (па прычыне адсутнасці працы), заняткі самыя розныя. Можна, вядома, і ў ложку адпачыць. Толькі потым прыходзіць думка і пра перспектывы, пра тое, як далей будаваць сваё жыццё. Імкненне да працы яшчэ не абазначае абавязковую наяўнасць яе.

Шукалі іншае месца працы, не звальняючыся, праўда, з цяперашняга. У сучасных умовах страшэннага беспрацоўя гэта б было проста самагубствам. Званілі па розных тэлефонах, дзе патрабаваліся працоўныя рукі. Але часцей за ўсё натыкаліся на аб'явы, звязаныя з продажам усялякіх лекаў, касметыкі, водаачышчальных фільтраў, гігіенічных сродкаў і гэтак далей. Пра шчырую працу, аб якой марылася, не было нават гаворкі.

Пра гэта яны даведаліся, схадзіўшы аднойчы на сход-абучэнне гандлю лячэбнай касметыкай. Жадаеш зарабіць — калі ласка, выкладвай долары, цябе занясуць быццам бы ў электронны спіс такіх жа «шукальнікаў», дадуць набор крэмаў, шампуняў, ласьёнаў (дакладней — прададуць). І далей справа ўжо за табою. Але з кожнай прададзенай партыі павінна ісці адлічэнне на рахунак «кампаніі» (гэта значыць туды, дзе вы занесены ў спіс). Адрас «кампаніі» заўсёды вельмі прыстойны — нешта накшталт Вірджыніі, ці Каларада. Вельмі далёка, амаль за мяжой разумення. На гэта і разлічана: у безнадзейным становішчы, не спадзеючыся на ўласную дзяржаву, працоўныя часцей за ўсё вераць у «поле цудаў», пасля наведвання якога яны могуць ператварыцца ў даволі нябедных асоб...

Карацей кажучы, залезлі знаёмыя ў даўгі, разлічваюцца з якімі і зараз. Стаўшы ахвярамі чарговых Астапаў Бендэраў. Так скончыліся пошукі іншага месца працы. Асабіста для сябе сям'я вырашыла праводзіць вольны час у вёсцы, дапамагаючы бацькам. Таму што гэта — надзейная крыніца. Мяса, агародніну, грыбы — усё вязуць з вёскі. Да таго ж і ў час водпуску крыху падзарабілі на ягадах — здавалі іх у нарыхтоўчыя канторы.

Зараз у вёску выязджаюць рэдка — дзеці займаюцца ў розныя змены, трэба за імі наглядаць, да таго ж і дарога каштуе амаль сто тысяч у адзін бок. Надзеі на будучыню, вядома ж, ёсць: «можа што зменіцца, не будзе ж увесь час так кепска» (так яны гавораць).

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*«Гарачыя тэлефоны» «Звязды» — 268-20-72 і 268-27-51*

# ЗАРПЛАТУ КАЛГАСНІКАМ УСЁ Ж ПЛАЦЯЦЬ, АЛЕ З ВЯЛІКІМ СПАЗНЕННЕМ

Нямала хто з чытачоў «Звязды» — вясковыя людзі. Мо таму не так часта званілі яны нам у гарачую пару ўборкі ўраджаю.

Праўда, было і іншае меркаванне: мо раптам ліквідаваны ўсе запазычанасці па выплаце заработнай платы? А чаму б і не? Вяскоўцам жа ёсць што зараз прадаць: добры ўраджай атрыманы на збожжавых і бульбяных палетках. Значыць і грошы павінны з'явіцца ў гаспадарках. Ды, на вялікі жаль, як з'явіліся — так і разыходзяцца. Тым болей, што накопліваюцца даўгі і ў людзей (неяк жа трэба жыць, нават не маючы спадзявання, што нейкую капейчыну атрымаеш).

А зарплату калгаснікам усё ж плацяць, але з вялікім спазненнем. Як, напрыклад, у калгасе «50 год БССР» Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Зарплату за ліпень выплацілі ў сярэдзіне верасня. За жнівень жа і верасень пакуль не плацяць. Праўда, як паведамілі ў рэдакцыю па тэлефоне, сярэдні памер заробку ў калгаснікаў параўнальна неблагі — 700—800 тысяч рублёў. Але ж каб плацілі своечасова. Дарэчы, у гэтай жа гаспадарцы затрымліваюць і выплату дапамогі на дзяцей. Вось і рабі што хочаш, якія хочаш, такія і шукай шляхі заробку. У вёсцы ж, як вядома, іх не так ужо і шмат.

***Паважаныя чытачы! «Звязда» чакае вашых званкоў. «Гарачыя тэлефоны» — 268-28-72 і 268-27-51 — працуюць з 10 да 13 гадзін.***

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*ПАСЛЯ ВЫСТУПЛЕННЯ «ЗВЯЗДЫ»*

# НЯМА ГРОШАЙ — НЕ БУДЗЕ І ПАМЯЦІ?

***28 жніўня ў «Звяздзе» было змешчана пісьмо краязнаўцы з г. п. Бялынічы Анатоля Марозава «Нішто не забыта. А хто ж забыты?..» У публікацыі ішла размова аб тым, што ў раёне неналежным чынам ушаноўваецца памяць аб загінуўшых воінах і партызанах, прыводзіліся канкрэтныя прыклады абыякавых адносінаў да гэтай святой справы.***

Вось як адрэагаваў на выступленне газеты **намеснік старшыні Бялыніцкага раённага выканаўчага камітэта М. ГУЗНЯКОЎ:**

— Сапраўды, у раёне была створана камісія па напісанню кнігі «Памяць», у састаў якой уваходзіў і аўтар пісьма А. Марозаў. Састаў гэтай камісіі неаднаразова мяняўся, але фінансаванне работ па напісанню кнігі вялося пад поўную патрэбнасць.

Кніга «Памяць» была здадзена ў рэдакцыю, але вернута на дапрацоўку: яна не адпавядала тым патрабаванням, якія прад'яўляліся. А. Марозаў адмовіўся дапрацоўваць кнігу і выйшаў з саставу камісіі. Апошні састаў яе быў створаны ў 1995 годзе, памяняліся і старшыня, і сакратар, і частка членаў. Праца па стварэнню кнігі вядзецца, але гэтым цяпер займаюцца іншыя людзі, што стварае пэўныя цяжкасці.

У г. п. Бялынічы да 50-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне быў адкрыты помнік загінуўшым землякам. Яго ўзвядзенне фінансавалася са сродкаў мясцовага бюджэту і ахвяраванняў арганізацый, прадпрыемстваў, устаноў, калгасаў, саўгасаў і грамадзян. На жаль, помнік гэты не закончаны з-за недахвату сродкаў, не ўстаноўлены мемарыяльныя пліты з імёнамі загінуўшых бялынічан.

Зверка спісаў пахаваных і ўвекавечаных на абелісках і помніках вядзецца і да 9 мая 1997 года будзе закончана.

**ПРЫЗНАЮСЯ, Віталія Уладзіміравіча Курашыка я ведаў даўно. Праўда, завочна. Усе, хто так ці інакш быў знаёмы з яго працай, бачылі яе вынікі ўвачавідкі, — родзічы ў Крыме, знаёмыя ў Кіеве, сябры ў Беларусі, — гаварылі пра яго толькі станоўчае, пры гэтым выдзяляючы яго высокія арганізатарскія здольнасці, дзелавую хватку, сумленнасць, адказнасць і вялікую працавітасць. Больш таго, добра запомнілася тая вельмі станоўчая рэакцыя нашай грамадскасці (асабліва палітычных і дзелавых колаў) на тое, што вядомы ва Украіне палітык і гаспадарнік Віталь Курашык быў прызначаны Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Беларусі ва Украіне. Упэўнены, не кожны здольны зрабіць такі няпросты крок, маючы добры і трывалы жыццёвы падмурак па-за радзімай (у той час Віталь Уладзіміравіч ва Украіне займаў высокія дзяржаўныя пасады: працаваў Старшынёй Савета Міністраў Рэспублікі Крым, адначасова быў членам урада Украіны, а таксама з'яўляўся дэпутатам Вярхоўнага Савета Украіны). Мабыць, яшчэ тады ў мяне і ўзнікла жаданне задаць яму некаторыя пытанні. А пабываўшы нядаўна ў камандзіроўцы ў Кіеве і пачуўшы вельмі добрыя водгукі розных людзей (палітыкаў і вучоных, бізнесменаў і дэпутатаў) пра дзейнасць беларускага пасольства, я проста не мог не сустрэцца з Віталем Уладзіміравічам. І яшчэ перад сустрэчай я са здзіўленнем раптам выявіў, што грамадскасць не вельмі песціць увагай паслоў. Каго з іх ведаюць нашы чытачы, тэлегледачы? А з беларускіх за мяжой?.. Мы дрэнна ведаем дыпламатаў яшчэ і таму, што на гэту пасаду нярэдка назначалі наменклатуру, якая праштрафілася на радзіме. Дай Бог, каб ад гэтага мы адышлі і гэтага больш не было. У нас сёння нямала здольных і разумных людзей у дыпкорпусе... Мне вельмі хочацца, каб чытачы ведалі іх імёны.**

*ДЫПЛАМАТЫЧНЫЯ ГУТАРКІ*

# НЕПРАДУЗЯТАСЦЬ, ДЗЕЛАВІТАСЦЬ, ЦІКАВАСЦЬ ДА ЛЮДЗЕЙ, БЕЗУМОЎНА, РОЗУМ, ЗДАРОВЫ СЭНС І... УСМЕШКА

***Менавіта такія чалавечыя якасці перш за ўсё цэніць у дыпламатаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь ва Украіне Віталь КУРАШЫК***

...Размова адбылася ў пасольстве, якое размясцілася ў самым цэнтры горада, непадалёку — Кіева-Пячорская лаўра, Крашчацік, іншыя славутасці Кіева. Пастаяннае адчуванне іх, прызнаўся пасол, накладвае адпаведны адбітак на працу пасольства: яна павінна быць дастойнай людзей, маральнай, гуманнай. З гэтага і пачалася наша гутарка.

**— Віталь Уладзіміравіч, вы, мне здаецца, яскравы прадстаўнік пакалення, якое ў свой час «шукала лепшай долі...»**

— Рабіць гэта прымушала жыццё. Закончыўшы школу на Брэстчыне, я, як і многія юнакі і дзяўчаты, мае землякі, паехаў у Данбас, на заработкі. Працаваў доўгі час у шахце, здабываў вугаль...

**— Шахцёры, як вядома, своеасаблівы народ...**

— ... Чаму ж? Шахцёры — звычайныя людзі. Магчыма, хтосьці неадэкватна ўспрымае іх абвостранае пачуццё адказнасці, іх вялікую любоў да жыцця, імкненне атрымаць ад яго асалоду. Але ж, перакананы, гэтыя якасці павінны быць у кожнага нармальнага чалавека. Выпрацаваны шахцёрскі характар да гэтага часу не дазваляе расслабіцца, а атрыманы станоўчы зарад пераважае над песімізмам. Я веру, што, нягледзячы на ўсе складанасці, лёс Беларусі будзе шчаслівы і яна зойме дастойны пасад сярод народаў свету. Маючы такі цудоўны разумовы патэнцыял, такі працавіты народ, проста грэшна не рушыць наперад. Але для гэтага трэба руплива працаваць на дзяржаву, імкнуцца знаходзіць кампрамісы нават пры вырашэнні вельмі складаных задач.

**— Адчуваю вашу шчырасць, таму прашу сказаць гранічна адкрыта, чаму вы згадзіліся быць паслом, пакінуўшы высокія дзяржаўныя пасады ва Украіне?**

— Мне сапраўды было няпроста адважыцца на гэты крок. Я многа гадоў аддаў Данбасу, потым Крыму, дзе прайшлі маё юнацтва, маладыя гады, большая частка сталага жыцця. Спадзяюся, я шмат зрабіў там, прынамсі, імкнуўся да гэтага, атрымліваў сапраўднае задавальненне ад працы, ад людзей, з якімі і для якіх працаваў. Паверце, гэта вельмі важна. Але, мабыць, кожны, хто жыве за межамі сваёй Радзімы, больш абвострана, нават настальгічна яе ўспрымае. У Беларусі я нарадзіўся, закончыў школу... У Беларусі пахаваны мой бацька, жывуць браты і сёстры. Штогод я наведваю сваю малую радзіму. Гэта для мяне — крыніца сілы, энергіі, наогул — стымул для жыцця. Думаю, гэта было галоўным у маім рашэнні прыняць прапанову беларускага ўрада прадстаўляць нашу Беларусь ва Украіне.

Магчыма, гэта лёс. Так склалася, што, працуючы яшчэ шахцёрам, я набываў шмат кніг, цікавіўся дыпламатыяй. Што, дарэчы, дапамагала мне ў гаспадарчай і кіраўніцкай рабоце. Праўда, цяжка было нават уявіць, што некалі мне прыйдзецца быць дыпламатам.

**— Віталь Уладзіміравіч, вядома, вас ведаюць ва Украіне як вопытнага гаспадарніка, добрага кіраўніка, уплывовага палітыка, адным словам, адказнага чалавека, які дабіваецца свайго. Ці задаволены вы вынікамі работы пасольства?**

— Адназначна нельга адказаць на гэта пытанне. Тры гады прайшлі хутка. Чымсьці я задаволены, а штосьці і не ўдалося зрабіць. У нашым пасольстве працуе зусім нямнога людзей: Уладзімір Бокач займаецца палітыкай і культурай, Пятро Пясецкі і Уладзімір Слесар — эканомікай, два дыпламаты вядуць консульскія і візавыя пытанні. Справу сваю яны ведаюць добра. Але, мяркую, для таго, каб працаваць больш эфектыўна ва Украіне, трэба мець людзей значна больш. Наспела неабходнасць адкрываць консульствы ў Крыме, на ўсходзе і захадзе Украіны — гэта вялікая дзяржава, і гэтым штатам работнікаў проста немагчыма пашыраць сваю дзейнасць.

Тым не менш, мы працуем, і працуем нядрэнна. У мінулым годзе, напрыклад, знешнегандлёвы абарот паміж Беларуссю і Украінай узрос супраць пазалеташняга ў 2,7 раза і склаў 1 млрд. 200 млн. долараў ЗША. У гэтым годзе імкнёмся дасягнуць тавараабароту ў 2 мільярды долараў (так гандлявала Беларусь з Украінай у савецкія часы). Рост тавараабароту характарызуе рост вытворчасці, а ў выніку — людзі заняты працай, атрымліваюць зарплату. Гэты паказчык застаецца для нас вызначальным.

**— Прабачце, вы пачыналі сваю дыпламатычную работу, можна сказаць, з нуля, пасольства арганізоўвалася таксама вамі. За тры гады, сапраўды, зроблена многа. Мяркую, цяпер вы ўжо можаце ацэньваць і сябе як дыпламата, і іншых сваіх калег. Калі так, адкажыце на два пытанні. Якія якасці вы цэніце перш за ўсё ў дыпламатах? Дзякуючы чаму вы так добра арыентуецеся ў гэтай краіне?**

— Цаню непрадузятасць, дзелавітасць, кантактнасць, цікавасць да людзей, безумоўна розум, здаровы сэнс. Гэтыя якасці неабходны перш за ўсё. Адказваючы на другое пытанне, успамінаю размову з адным паслом, акрэдытаваным ва Украіне, які спытаў: «Колькі гадоў вы працуеце ва Украіне, што так добра ведаеце яе?» Я адказаў: «Сорак». На што ён сказаў: «Так не бывае». Бывае. І гэта дазваляе мне ведаць не толькі кіраўнікоў усёй Украіны, але і абласцей. Дыпламатыя, як вядома, без асабістых кантактаў безвыніковая. Таму самае каштоўнае, што я выкарыстоўваю ў сваёй рабоце, напрацаванае раней, гэта асабістыя сувязі. Я задаволены адносінамі кіраўніцтва Украіны да пасольства і да сябе асабіста.

**— Віталь Уладзіміравіч, Украіна, як вядома, займае ў Еўропе прыметнае месца. У беларусаў з украінцамі былі заўсёды добрыя адносіны. Цікава, што адбываецца цяпер ва Украіне?**

— Мне, прызнаюся, гэта вельмі складана зрабіць. Я не журналіст і не палітолаг, а дыпламат, таму ў нейкай ступені абмежаваны ў сваіх адказах і ацэнках. Але тое, што я лічу ва Украіне галоўным, важным — гэта, вядома, працэс перамен ва ўсім. Сітуацыя ў многім падобная на тую, што ёсць у Беларусі. Сіндром «поўнай незалежнасці» тут таксама праходзіць. У свой час, калі Украіна набыла незалежнасць, тут, дарэчы, як і ў нас, з'явіліся некаторыя тэндэнцыі і накіраванасць на вытворчасць толькі сваіх тавараў, нават тых, якія да гэтага не выпускаліся. Напрыклад, ужо меркавалася арганізаваць вытворчасць гадзіннікаў (ва Украіне яе зусім не было). Але пасля таго, як Леанід Данілавіч Кучма пабываў на Мінскім гадзіннікавым заводзе і ўбачыў шырокі асартымент яго прадукцыі, пачалася работа па стварэнню сумесных прадпрыемстваў. На вядомым заводзе «Арсенал» у Кіеве, а таксама ў Крыме ўжо пачынаецца зборка беларускіх гадзіннікаў. Гэта адзінкавы, але яскравы прыклад наладжвання шырокіх эканамічных сувязей.

**— Відавочна, сур'ёзныя набыткі ў гэтым плане яшчэ наперадзе?**

— Украіна — шырокі рынак і для іншых беларускіх тавараў. Тут цікавяцца «БелАЗамі», халадзільнікамі «Атлант» (хоць ёсць і свая вытворчасць), нашымі трактарамі, мотаблокамі, мінеральнымі ўгнаеннямі... Гэта цікавасць апошнім часам узрасла. Патлумачыць яе можна некалькімі прычынамі. Па-першае, асаблівасцямі цяперашняй знешнеэканамічнай палітыкі Украіны, якая накіравана на паглыбленне эканамічных сувязей з дзяржавамі былога Саюза. Па-другое, асаблівая роля тут належыць наладжванню ўзаемавыгадных, раўнапраўных кантактаў з нашай краінай. Беларусь — адзін з галоўных стратэгічных партнёраў Украіны. У яе знешнеэканамічнай дзейнасці з краінамі СНД Беларусь займае другое месца пасля Расіі. І гэта заканамерна. Эканоміка нашых дзяржаў вельмі пераплеценая, узаемазалежная. Вядома, што шматлікія ўкраінскія прадпрыемствы, з аднаго боку, і столькі ж беларускіх — з другога проста не могуць працаваць без узаемных паставак. Нельга разам абарваць тое, што ўмацоўвалася дзесяцігоддзямі. Ірвалі па жывому, таму цяпер цяжка і ўкраінцам, і беларусам. Таму зразумелая ўзаемная цікавасць іх да спраў суседзяў. Як-ніяк, мы народы блізкія па духу, па агульнай гісторыі, культуры, адзінаму лёсу.

Вядома, назад ужо не вернемся, ды і вяртацца не трэба, але важна на іншым узроўні аднаўляць усебаковыя сувязі паміж нашымі народамі. Лічу, што канструктыўную ролю адыгрываюць у гэтым сустрэчы прэзідэнтаў нашых краін Аляксандра Лукашэнкі і Леаніда Кучмы, падпісанне Дагавора аб дружбе, добрасуседстве і супрацоўніцтве. У час візіту ва Украіну прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Чыгіра таксама былі падпісаны важныя міжурадавыя пагадненні: аб узаемнай абароне інвестыцый, аб гарантыях правоў грамадзян у галіне пенсіённага забеспячэння, аб супрацоўніцтве ў галіне маладзёжнай палітыкі, аб арганізацыі сумеснага кантролю ў пунктах пропуску на мяжы. Апошнім часам наладжваюцца дзелавыя кантакты міністэрстваў, ведамстваў, дзелавых колаў дзвюх краін, адноўлены на сучасным узроўні сувязі паміж Валынскай і Брэсцкай, Чарнігаўскай і Гомельскай, Кіеўскай і Мінскай абласцямі.

**— Адносіны дзяржаў — гэта і проста адносіны паміж людзьмі. Я адчуў тут, як цікавяцца ўкраінцы беларускай культурай, навукай і наогул усім тым, што адбываецца ў Беларусі...**

— Пашырэнне інфармацыйнай прасторы паміж Беларуссю і Украінай вельмі важнае. Тое, што людзі на бытавым узроўні кантактуюць цяпер больш цесна, чым нават год-два назад, — факт. Гэтаму садзейнічае і спрошчаная сістэма перасячэння мяжы. Мы шмат працавалі над вырашэннем гэтай праблемы. На жаль, адносіны паміж дзяржавамі лёгка парушыць, а вось для выпраўлення гэтага патрабуюцца цэлыя гады. І вы бачыце, што ўрад Беларусі, нягледзячы на ўсе эмоцыі, у адносінах да Украіны праводзіць рацыянальную, добрасуседскую, добразычлівую палітыку. Тут нам будаваць разам агульнаеўрапейскі дом. Трэба пры гэтым разумець і пачуцці людзей.

**— Вядома, што складанасці ва ўзаемаадносінах паміж нашымі краінамі ўзнікалі з-за пытанняў уласнасці, вызначэння запазычанасці Украіны Беларусі. Наколькі зрушылася з месца вырашэнне гэтай праблемы?**

— Гэта адно з самых складаных пытанняў. Прэзідэнт Леанід Кучма пацвердзіў, што Украіна павінна Беларусі 250 мільёнаў долараў. Пасля доўгага супраціўлення пацвердзілі гэта і банкі. Засталося гэта толькі аформіць згодна з міжнародным правам.

**— Як, на ваш погляд, будуць весціся разлікі?**

— Ёсць некалькі варыянтаў. Запазычанасць можна пагашаць вугалем, зернем, а таксама перадачай ва ўласнасць Беларусі некалькіх санаторыяў. Напрыклад, моцная лячэбная база ёсць у горадзе Сакі. Дарэчы, мэрам апошняга з'яўляецца беларус Анатоль Васільевіч Піцуха. Тут у адным з санаторыяў для бацькоў з дзецьмі прымяняецца новая ўстаноўка па выяўленню ў арганізме радыенуклідаў. Урачы распрацавалі методыку аздараўлення, пасля курса лячэння па якой зніжаецца іх колькасць амаль на 40 працэнтаў.

**— Праблемы Чарнобыля, як відаць, вас непакояць.**

— Гэта мой боль, гэта клопаты ўсяго пасольства. Гэта вялікая нацыянальная трагедыя і для Украіны, і для Беларусі. Паасобку нельга вырашыць гэтую глабальную для чалавецтва праблему. Кіраўніцтва Украіны робіць сур'ёзныя захады па закрыццю ЧАЭС, але адной ёй гэта не асіліць. Таму так важна, каб «сямёрка» аказала ў гэтым плане абяцаную дапамогу. Вось мы зараз гаворым з вамі, а вучоныя не ведаюць, што робіцца ў «саркафагу» (пра сітуацыю на ЧАЭС «Звязда» пісала 3 кастрычніка. — **Ул. А.**). Мяне палохае нейкая абыякавасць і палітыкаў, і вучоных, і саміх людзей. Не трэба панікаваць, але не трэба і самазаспакойвацца. Я сам быў ліквідатарам, таму вельмі разумею тых, хто ўзнімае раз за разам пытанне аб бяспецы ў паслячарнобыльскі перыяд. Што ў сілах пасольства, мы імкнёмся дапамагчы ў аздараўленні дзяцей. Карыстаючыся маімі сувязямі ў Крыме, у гэтым годзе адпачыла каля 10 тысяч беларускіх хлопчыкаў і дзяўчынак. Многія з іх знаходзіліся ў Еўпаторыі і лячыліся па распрацоўках нашага земляка доктара медыцынскіх навук Мікалая Паўлавіча Дрынеўскага, які дае рэкамендацыі, як лячыць дзяцей, колькі ім быць на сонцы, што есці і піць. Не разумею, чаму мы да гэтага часу адпраўляем дзяцей у Італію, Іспанію, нават на Кубу, не ведаючы пры гэтым, як такія паездкі адаб'юцца на іх здароўі.

Для чалавека цяпер больш небяспечныя вада і прадукты харчавання. Ведаючы гэта, мы разам з украінскімі і расійскімі калегамі ствараем Міжнародную асацыяцыю «Дзеці Чарнобыля», узначаліць якую на грамадскіх пачатках мне прапануюць. Задача яе — вытворчасць чыстай прадукцыі і комплекснае лячэнне дзяцей. Ініцыятары яе — вучоныя Украіны. Ёсць ужо «дабро» міністэрстваў аховы здароўя Беларусі і Расіі. 250 гаспадарак Украіны, якія знаходзяцца ў чыстай зоне (рэгіён Нікалаева), далі згоду ўдзельнічаць у гэтай важнай справе, добра разумеючы, што дзеці — гэта будучае нацыі, дзяржавы. Праўда, і тут не абыходзіцца без бюракратычнай цяганіны. Я так скажу: бюракратыя — страшнае зло, асабліва калі яно праяўляецца ў міжнародным маштабе. З ёю трэба змагацца, інакш добрыя намеры застануцца на паперы. Многія чакаюць, што хтосьці за нас зробіць. Не, мы самі павінны падумаць пра будучыню Беларусі. У гэтым плане я падтрымліваю Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнку, які ставіць задачу жорсткага кантролю за выкарыстаннем чарнобыльскіх сродкаў, каб не карміліся каля дзяржаўнай «кармушкі» пасрэдніцкія структуры.

**— Адчуваецца, Віталь Уладзіміравіч, што, становячыся палітыкам і дыпламатам, вы паспяхова працавалі ў сваёй сацыяльна-эканамічнай сферы. А паколькі займаліся яшчэ і праблематыкай эканамічных адносінаў нашых дзвюх краін, дык якімі ж яны бачацца вам у перспектыве, на фоне ўсіх падзей, якія адбываюцца?**

— Мне здаецца, што гэтыя адносіны ўжо праглядваюцца. Нашы краіны знаходзяцца ў пераломным перыядзе, і мы ўжо пераходзім ад каманднa-адміністрацыйнай сістэмы да рынку — усё гэта звязана з вельмі буйнымі праблемамі сістэмнага парадку. У такія крызісныя перыяды можна ці цесна супрацоўнічаць, каб разам пераадолець рэальныя цяжкасці пераходнага моманту, уласцівага і Беларусі і Украіне, ці можна імкнуцца якімсьці чынам выкараскацца з усяго гэтага за ўласны кошт ці нават за кошт іншага. І мне здаецца, што гэты, другі, падыход у любым выглядзе вельмі небяспечны ў тым сэнсе, што можа прывесці, калі ён рэалізуецца на практыцы, да поўнай дэстабілізацыі нашых эканамічных адносінаў. І ўсё, што мы стваралі дзесяткі гадоў, можа прапасці дарэмна. Зразумела, што і палітычныя адносіны ў многім залежаць ад эканамічных інтарэсаў, эканамічнага супрацоўніцтва. Звужэнне маштабаў нашага партнёрства ў эканоміцы не можа не ўплываць і на адносіны ў палітыцы. Таму вельмі важна, на мой погляд, стварыць спрыяльныя ўмовы для гандлю, калі ўсе законы, якія яго рэгулююць, простыя і зразумелыя, прымяняюцца апраўдана. Гэта заахвоціць кампаніі, якія валодаюць капіталам, на ўзаемнае ўкладанне інвестыцый у эканомікі абедзвюх краін і на пошук новых магчымасцей, якія, зразумела, існуюць.

**— Вы сапраўды аптыміст. Як ацэньваеце ў такім разе мноства апакаліптычных каментарыяў пра будучыню нашай дзяржавы?**

— Па-першае, песімістам у наш час нельга працаваць у дзяржаўных структурах: скардзіцца не трэба, галоўнае — імкнуцца бачыць рэальныя праблемы і талкова іх вырашаць. Апакаліпсіс? Які? Вось кажуць, што мы не ідзём па шляху да рынку. Гэта гледзячы хто і чаму гаворыць. Я ведаю адно: гісторыя даказала, што рынaчная эканоміка працуе лепш, чым камандна-адміністрацыйная сістэма, але яна паказала нам і іншае: да чаго можа прывесці бескантрольны капіталізм. Большасць заходніх краін усё ж валодае змешанай эканомікай. Думаю, рынaчная эканоміка і дэмакратыя не вырашаць самі па сабе ўсіх нашых праблем. Яны неабходныя, але далёка не дастатковыя. Галоўная перавага іх у тым, што яны разнявольваюць таленты людзей і здольны стварыць умовы, пры якіх можа раскрыцца ўвесь патэнцыял беларускіх людзей. Хацелася б напомніць тут і старую прымаўку: Бог дапамагае тым, хто сам сабе дапамагае. У саміх рынку і дэмакратыі не хаваецца ніякай небяспекі, акрамя небяспекі, што ўзнікне ілюзія, быццам аднымі размовамі вырашацца ўсе праблемы. Трэба працаваць і працаваць...

**— Віталь Уладзіміравіч, па традыцыі, якая склалася ў «Звязды», я павінен быў бы прасіць у вас якія-небудзь «рэцэпты» для папраўкі «здароўя» нашага грамадства. Але, па-першае, разумею, што гэта не ўваходзіць у вашы функцыі, а па-другое, ведаю, наколькі няпростыя праблемы стаяць сёння ў адносінах паміж Беларуссю і Украінай. Тым не менш, калі гаварыць аб сходных крызісных сітуацыях, то, на мой погляд, адна з самых «агульначалавечых» праблем сёння не толькі ў нас, але і ва ўсёй Еўропе, ды і не толькі ў ёй — станаўленне і развіццё сапраўднай дэмакратыі. Пра яе столькі ўжо гаворана, але цікава пачуць ваша разуменне яе.**

— Ведаеце, да самога тэрміна, паняцця «дэмакратыя» можна падысці з розных бакоў. Дэмакратыя — гэта і палітычная сістэма, дэмакратыя — гэта і наогул ход палітычнага жыцця, працэс выяўлення волі большасці да таго, каб можна было больш-менш устойліва кіраваць краінай. Гэту сістэму павінна ўспрыняць пераважная большасць народа. Потым дэмакратыя — гэта і ўменне знайсці кампраміс. Можна было б прыводзіць і іншыя вызначэнні дэмакратыі ў маім разуменні. Але зразумела тое, што дэмакратыя — такая сістэма, такое жыццё, якое нельга стварыць ніякімі пастановамі, а гэта тое, над стварэннем чаго ўсе павінны добра працаваць, дзе ўсе павінны прыняць агульныя прынцыпы і каштоўнасці — і ўжо ў згодзе з імі і па свайму ўнутранаму, глыбокаму перакананню дзейнічаць і ўзаемадзейнічаць адзін з адным.

❑

Мы не закранaлі з паслом Беларусі ва Украіне многіх іншых пытанняў, якія датычацца развіцця двухбаковых беларуска-ўкраінскіх адносінаў, сітуацыі ў абедзвюх краінах і інш. «Думаю, мы яшчэ знойдзем час і магчымасць пагутарыць і на іншыя тэмы», — з усмешкай адказаў на гэта Віталь Уладзіміравіч Курашык.

Дарэчы, у яго вельмі добрая ўсмешка. І мне вельмі захацелася менавіта ўсмешку ўключыць у пералік тых чалавечых якасцей, якія наш пасол ва Украіне цэніць у дыпламатаў. Вось гэта «формула»: непрадузятасць, дзелавітасць, цікавасць да людзей, безумоўна, розум, здаровы сэнс і... усмешка.

**Уладзімір АНДРЫЕВІЧ.**

*Мінск—Кіеў—Мінск.*

# ЗАБЯРЫЦЕ ДВАЙНІКА, ДАЙЦЕ САЛАДУХУ!

Ці ЛЁГКА ЗАРАЗ ПАЗНАЦЬ «зорку» беларускай эстрады Аляксандра Саладуху? І так, і не... Пачнём з ног.

Тры доўгія гады Саладуха сумаваў па сваіх шыкоўных канцэртных ботах, якія ў яго сцягнулі зладзеі ў кастрычніку 1993 года з нумара гомельскай гасцініцы. Аднак ёсць Бог на свеце! Нядаўна Андрэ — гаспадар італьянскай крамы — падарыў спеваку новыя боты.

А ў трэцяй дэкадзе кастрычніка боты «панясуць» Саладуху не абы куды — на пятыя ў яго творчым жыцці гастролі па Расіі.

З ботамі ўсё зразумела?.. Зараз абмяркуем новыя саладухавы «колы». Акрамя яго белай 31-й «Волгі», якой беларускія журналісты ўжо даўно перамылі ўсе костачкі (ці, дакладней, запчасткі), у Саладухі з'явілася новая машына — «залаты» «Мерседэс». Аднак Аляксандр не прадугледжвае другой вадзіцельскай стаўкі, і таму зараз яго вадзіцелю Валерыю «па шчупаковай волі, па саладухавым жаданні» толькі паспявай пераскокваць з адной машыны ў другую, і руляваць, руляваць, руляваць...

Цяпер — пра галоўнае. Ходзяць чуткі, што адна жанчына закруціла Саладуху галаву. Ці праўда гэта? Праўда.

Але дакладней было б сказаць, што яна не закруціла яму галаву, а абстрыгла. І асмелілася



на гэта, па словах Саладухі, «лепшы майстар-цырульнік Беларусі, якая выхавала цэлую плеяду майстроў-цырульнікаў. Апошнія ў сваю чаргу жывуць і працуюць не толькі ў Беларусі, а нават у Амерыцы...»

Дык хто ж яна, гэта жанчына?.. Людміла Бразгоўская, і з ёй спявак сябруе вось ужо 15 гадоў...

Пасля таго, як застаўся без «хваста», барады і лішніх кілаграмаў (якія скінуў яшчэ раней), Саладуха стаў больш прывабным, аднак публіка часам можа і разгубіцца, крыкнуць у час канцэрта: «Забярыце двайніка, дайце сапраўднага Саладуху!».

Тым жа, каму больш даспадобы былы імідж Саладухі, — глядзіце кожны тыдзень «Тэлекампакт» па 5-м канале Санкт-Пецярбурга.

А тым, хто хоча даведацца пра свайго куміра яшчэ больш, паведамляем:

па-першае, 29 лістапада ў прэстыжным зале «Кастрычніцкі» Санкт-Пецярбурга плануецца сольны канцэрт спевака;

па-другое, у Саладухі добры настрой, бо з 1 студзеня 1997 года па неакрэслены тэрмін ён прадоўжыць творчы кантракт з Ігарам Крутым.

А па-трэцяе — Аляксандр перадае прывітанне ўсім сваім прыхільнікам!

**Алена КЛІМЕНКА.**



## ЯНА ЗРАБІЛА ВЫБАР НА КАРЫСЦЬ ПРЭЗІДЭНТА АРМЕНІІ

**Беларуская спявачка Стэла не так даўно вярнулася з Арменіі, дзе ўдзельнічала ў перадвыбарных канцэртах.**

Стэла год назад заваявала першую прэмію на фестывалі беларускай песні і паэзіі. Яна спявала на беларускай мове, хоць сама жыве на Беларусі толькі з 1989 года. Стэла — армянка.

Улетку гэтага года маладая спявачка прымала ўдзел у Сусветным форуме студэнтаў, што праходзіў у Арменіі. Тады яе прадставілі прэзідэнту Лявону Тэр-Петрасяну. Дзяўчыне пашчасціла нават танцаваць у прэзідэнцкім палацы не з кім-небудзь, а з самім яго гаспадаром. Лявон Тэр-Петрасян здаўся ёй вельмі разумным, добрым чалавекам.

Таму, калі Стэлу праз армянскую абшчыну і Пасольства Рэспублікі Арменіі ў РБ запрасілі сваім талентам падтрымаць прэзідэнта перад выбарамі, яна без ваганняў згадзілася. Разам з ёй у якасці вядучай канцэртаў паехала дыктар БТ Арына Ястраб.

У дзяўчыны з Беларусі былі тры сольныя канцэрты, арганізаваныя Дзяржаўным тэатрам эстраднай песні пад кіраўніцтвам Артура Грыгарана. Падтрымаць армянскага прэзідэнта прыязджалі Аркадзь Буйноў, Валерый Лявонцьеў, Шарль Азнавур. Але Стэла, цяпер ужо грамадзянка Беларусі, карысталася найбольшай папулярнасцю ў землякоў: былі сустрэчы з прэсай, тэлебачаннем, работнікамі МЗС... Зразумела, галоўнае — публіка. Асноўны канцэрт адбываўся на былой плошчы Леніна, зараз, як заведзена ў постсавецкіх краінах, — Незалежнасці. Стэла спявала песні беларускіх аўтараў на рускай мове. Да песні «Здравствуй, мой Ереван» там зрабілі кліп (ужо другі ў арсенале Стэлы) і знялі невялічкі фільм пра сустрэчу беларускай армянкі з гістарычнай радзімай. Ганарары ад канцэртаў артысты пакідалі на патрэбы Арменіі, дзе зараз шмат праблем з газам, вадою, святлом.

Групка з Беларусі трапіла ў паслявыбарны перапалох. Але рэвалюцыя не ўваходзіла ў планы Стэлы і Арыны. Жанчыны вярнуліся на Беларусь. Потым знаёмыя з Ерэвана патэлефанавалі: усё супакоілася, апазіцыя прыціхла.

Інакш і не магло быць, упэўнена Стэла. Яшчэ ў Арменіі яна пачала будаваць планы будучых гастроляў. Вясной тэатр А. Грыгарана запрасіў праехаць па Карабаху, ёсць прапанова паўдзельнічаць у «Блакітным агеньчыку». Армянская дыяспара запрашае ў Амерыку, толькі ўжо з армянскімі песнямі. Ёсць магчымасць запісаць дыск. Толькі паспявай працаваць! Але перабірацца ў Арменію зусім Стэла не збіраецца. Ёсць у яе яшчэ справы на Беларусі.

Зараз студэнтка 4 курса Маладзечанскага музычнага вучылішча выкладае ў дзіцячай студыі «Мульцік» г. Мінска. Як пераможца тэлевізійнага фестывалю «Залатыя ключы», Стэла ў якасці ўзнагароды зможа запісаць на БТ сольную праграму, ёсць прапанова зрабіць канцэрт у Салігорску.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## МЕСЦА СУСТРЭЧЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

Цікава, якое месца на Зямлі (зразумела, родная Беларусь па-за канкурэнцыяй) больш за ўсё вабіць нашых спевакоў? Безумоўна, кожнаму мроіцца нешта асаблівае. Але мроі мроямі, затое першае месца ў рэйтынгу папулярнасці сярод курортаў многія беларускія артысты аддалі балгарскаму мястэчку Сазопал. Сёлета тут адпачывалі ў розны час Віктар Вуячыч, Іна Афанасьева, Валерый Дайнека, Алена Турава, кампазітар Алег Елісеенкаў з жонкай Таццянай і зусім недалёка была Ліка. Прытым ніякай дамоўленасці паміж артыстамі не было, і гэта зусім не падобна на арганізаваны выезд. Магчыма, Сазопал улетку проста не можа існаваць без энергетыкі беларускіх спевакоў? Таму што на змену адным прыязджалі другія. А дзіўнае супадзенне выбару месца адпачынку выявілася ўжо ў Мінску, калі артысты пачалі шчодра дзяліцца ўражаннямі ад мора.

## І ШТО ТОЙ МАЙКЛ?..

Майклу Джэксану пашчасціла прыехаць у Польшчу менавіта тады, калі там знаходзіўся мастацкі кіраўнік беларускага гурта «Палац» Юрась Выдронак. Юрась быў у Варшаве на семінары па тэхніцы вольнага слова, паводзіў ён там сябе сціпла і ажыятажу вакол сваёй персоны не стварыў, не ў прыклад Майклу.

Джэксан прыляцеў у Польшчу на трох самалётах, увесь яго штаб складаў 200 чалавек. 70 чалавек адначасова знаходзілася на сцэне. Канцэрт хутчэй нагадваў вялікую тэатралізаваную оперна-балетную дзею, на якой прысутнічалі 200 тысяч гледачоў. Хто здалёк дрэнна бачыў, той за падзеямі на сцэне мог прасачыць па трох вялікіх экранах. Юрась трапіў на гэты канцэрт бясплатна і даволі пільна ўглядаўся ў поп-куміра і ва ўсё, што было навокал. Сустрэцца поглядамі ім не ўдалося: Майкл увесь час круціўся, бегаў па сцэне, усе яго рухі былі адпрацаваныя, нібы ў машыны. Але Ю. Выдронку падалося, што фізічна поп-сімвалу Амерыкі працаваць ужо даволі цяжка, хоць ён нічым сябе не скампраметаваў у вачах публікі. Публіка даволі спакойна перажыла гэтае шоу, магчыма таму, што збалаваная канцэртамі розных сусветных славутасцей. «Палац» у Беларусі часам лепей прымаюць, сказаў Ю. Выдронак. А шоу?..

«Каб нам такія грошы, мы маглі б зрабіць не горш», — зрабіў заключэнне натхняльнік попу Беларусі. Адзінае, што яго сапраўды здзівіла на польскім канцэрце, дык гэта тое, што ніхто ні разу яго не штурхнуў, ніхто не таптаўся па нагах, нягледзячы на вялікі натоўп. Культура...

*ВЕДАЙ НАШЫХ!*

## ФРАНЦУЗСКІЯ СЭРЦЫ СКАРЫЛІСЯ

Прымаўка «Ад сесіі да сесіі...», безумоўна, датычыцца не ўсіх студэнтаў. Напрыклад, студэнты Беларускай акадэміі музыкі круглы год займаюцца цяжкай працай: іграюць, іграюць... Нават падчас вакацый. Хоць пэўны момант «весялосці» ёсць і ў гэтым.

Сёлета сімфанічны аркестр Беларускай акадэміі музыкі жнівень правёў у Францыі. З мэтай адпачынку ў іх была адна экскурсія па Парыжу. Але ў астатнія дні давялося яе адпрацоўваць на фестывалі «Лета вялікага саду», што праходзіў у Верхняй Марне. 27 канцэртаў у розных гарадах выклікалі сапраўдны фурор. У саставе сімфанічнага былі яшчэ камерны аркестр, струнны квартэт і аркестр драўляных духавых інструментаў. Акрамя знакамітай класікі гучала музыка беларускіх кампазітараў.

Поспех не прымусіў сябе чакаць: бывалі выпадкі, калі публіка ехала ў іншы горад, дзе наш аркестр іграў ужо іншую праграму. А рэктар акадэміі і кіраўнік аркестра Міхаіл Казінец меў гонар выступіць па радыё «Франс Інтэрнасьёналь». Ён расказваў пра нашу акадэмію музыкі і краіну Беларусь цэлых 15 хвілін. Карацей, рэклама была добрая. Засталося чакаць наплыву французскіх абітурыентаў у галоўную музычную навучальную ўстанову Беларусі.

# ПЯТНАЦЦАТАЯ ВОСЕНЬ ДДТ

**Маршрут юбілейнага тура гурта ДДТ закрануў Беларусь**

Літаральна за два дні да мінскага канцэрта адзін з музыкантаў, дзядзька Міша, адыграў сваё вяселле. Таму артысты былі на ўздыме. А можа, гэта быў юбілейны ўздым? А можа проста жыццё — добрая рэч. Тыя, каму пашчасціла быць на канцэрце, маглі ў поўнай меры ацаніць стаўленне ДДТ-шнікаў да жыцця ды пагадзіцца з імі па ўсіх асноўных пунктах.

За пятнаццаць гадоў многае змянілася навокал і ў самім ДДТ. Сыходзілі некаторыя музыканты. Так, вельмі цяжка было знайсці замену клавішніку Андрэю Муратаву, які падаўся ў вялікі бізнес. Складанасць у тым, што Юрый Шаўчук шукае не проста добрага музыканта, а глядзіць, каб і чалавек быў добры. Усе пытанні ў гурце вырашаюцца калегіяльна. Хоць, вядома, сам Шаўчук — бясспрэчны лідэр. Вось яго погляд на некаторыя найбольш прынцыповыя моманты існавання:

1. «Ні ў якой палітычнай партыі я ніколі не быў. І не збіраюся. Палітыкі, як правіла, людзі, апантаныя адной ідэяй. Яны кажуць, што выратуюць свет, калі ўсе будуць падпарадкоўвацца толькі ім. І тут ужо справа ідзе ў бок насілля, мы такое бачылі. Бяда нашага жыцця, што вельмі мала веруючых палітыкаў, якія б імкнуліся вырашаць пытанні зыходзячы з законаў маралі».

2. «Мы добра ўсведамляем, што з'яўляемся грамадзянамі сваёй краіны, нас хвалюе ўсё, што ў ёй адбываецца. Але ў агітацыйна-рэкламнай кампаніі мы не ўдзельнічалі. Тут я разышоўся з усімі сваімі калегамі па сцэне. Я ніколі не дарую дэмакратычнай уладзе вайны ў Чачні. Вайна на самай справе — гэта калі зло навязвае дабру свае правілы гульні».

3. «Так, пачыналі мы тады, калі яшчэ прыходзілася даваць тлумачэнні наконт сваёй дзейнасці ў розных там «органах». Былое ўспамінаць не хочацца. Цяпер мы ўжо адвыклі ад таго, каб з намі праводзілі інструктаж у КДБ. Не дай Бог!..»

4. «Я не адношуся да людзей, якія лёгка гуляюць у паняцці «веру—не веру». Мая вера ў глыбіні, яна не ў тым, колькі разоў я бываў у царкве. Гэта вельмі асабістае. Мне здаецца, што адносіны з Богам куды больш інтымныя, чым адносіны паміж мужчынам і жанчынай».

5. «Любоў — гэта слова, гэта дзеянне, гэта пачуццё. А хто можа сказаць, што ведае дакладны сэнс гэтага слова? Людзі здолелі яго апашліць — і страцілі галоўнае. Любоў адразу нікому не даецца, да яе трэба дарасці. Свой альбом «Любоў» мы назвалі так, таму што дараслі да сапраўднага сэнсу гэтага слова».

6. Да «хітаносцаў» Юрый Шаўчук ставіцца іранічна.

7. На гастролях — у п'яным стане на сцэне не з'яўляецца.

8. З публікай любіць пакакетнічаць. Праўда, збоку гэтага не заўважаеш.

*БЫВАЛІЦЫ*

# ПРА АХРЭМА, ЮСТЫНУ І ВОЎКА

**Вялікі дзякуй усім, хто адгукнуўся на запрашэнне дасылаць у рэдакцыю свае смешныя гісторыі. «Звязда» атрымала ад чытачоў не адзін ліст з бываліцамі. А сапраўднай чэмпіёнкай сярод іншых стала Марыя Цімінская з вёскі Дзераўцы, што на Магілёўшчыне. Яна прыслала ажно пяць пісем! Чыталі мы, рагаталі і разумелі: народны гумар неўміручы. Але лепш дадзім слова аўтару самой Цымінскай.**

### ЗАБЛУДЗІЎСЯ Ў ТРОХ СОСНАХ

Неяк восенню затрымалася я ў школе. Было ўжо цемнавата, калі пайшла дадому. Дарога — праз лес. Толькі ўвайшла, чую: крычыць нехта. Страшнавата стала. Спынілася, прыслухалася: «Лю-ю-юдзі! Дзе вы? Памажыце! Ахрэм заблудзіўся!» Пазнала па голасу — сапраўды, гэта дзядзька Ахрэм з раз'езда. Падыходжу бліжэй. Стаіць небарака п'яны і перапужаны каля самай дарогі, але, праўда,...спінай да яе. Я азвалася, узяла дзядзьку за руку і вывела на шлях. Тут ён узрадаваўся. «Добра, — кажа, — адсюль я і сам свой дом знайду». Стаю, сама сабе ўсміхаюся: «Вядома ж знойдзеш — жывеш у сотні крокаў адсюль. Піць трэба меней!»

### ЯК ПАРХВЕН КІНО ГЛЯДЗЕЎ

Было гэта якраз пасля вайны. Абвясцілі ў вёсцы нейкі сход. Пачалі людзі збірацца, а тут раптам у клуб кіно прывезлі. Вырашылі: спачатку будзем глядзець стужку, потым правядзём сход.

Ходзіць «кіншчык» па радах, білеты прадае. Наблізіўся да дзядзькі Пархвена, а той і кажа:

— Не трэба мне білет. Я кіна твайго глядзець не буду.

— Тады, дзядзька, выходзьце з клуба!

— Не, галубок мой, не пайду. Я ж на сход прыйшоў! Дадому мне цэлы кіламетр ісці. Няўжо я буду швэндацца туды-сюды?!

— Дык мо вы тады вочы заплюснеце? — спрабаваў падкалоць «кіншчык».

— Не заплюсну, дык адвярнуся! — крутануўся дзядзька Пархвен і сеў спінай да экрана.

Так і праседзеў увесь сеанс. І хоць бы табе вокам глянуў! Не-а! Во вытрымка!

І да гэтага часу ў вёсцы можна пачуць: «Адвярнуўся, як Пархвен ад кіна».

### КАЎБАСА ДА ВЯЛІКАДНЯ

Дзядзька Арцём любіў выпіць сам, любіў і сяброў зазваць. А дзе выпіўка, там патрэбна і закусь. Цётка ж Юстына, як казалі, была скупаватая. Але толькі да першай чаркі. А як трохі глыне гарэліцы, тады дабрэе і нясе на стол свае прыпасы. І дзядзька Арцём, і яго сябры добра вывучылі яе нораў. Як збяруцца выпіць, дык найперш Юстынцы падносяць чарку. І ўсе гуртам запрашаюць-упрошваюць выпіць.

Забілі неяк Арцём з Юстынай кабанчыка. Прыпарадкавалі, зрабілі каўбасу.

— Няхай павісіць да Вялікадня, — і павесілі на гарышча.

Але выпіўкі ў Арцёма частыя. Ну, і Юстынцы перападае. А тая вып'е — ды і прынясе кавалачак каўбушка.

Вялікдзень. Наставіла Юстына на стол прысмакаў. Успомніла і пра каўбасу, загадала дзядзьку Арцёму дастаць. Палез той на гарышча, а там — адна завязка вісіць.

— Юстына, — крычыць адтуль, — дзе каўбушок? Тут жа толькі посілка!

— Няўжо?! А я ж, здаецца, берагла, патрошку адразала...

Пад выпіўку дзядзька і расказаў нам, як яго Юстына берагла да Вялікадня каўбушок.

### ЧЫЕ ГРЫБЫ?

Сядзяць двое мужчын-грыбнікоў на лаўцы перад станцыяй. З кашом падыходзіць трэці.

— Ну, ходзь сюды, — кажа адзін з сядзеўшых.— Чым пахвалішся?

Сунуўшы руку ў кошык, бярэ нейкі грыб і пытае:

— А гэтых навошта набраў? Гэта ж воўчыя!

— Дык воўку яшчэ нарастуць...

* * *

**НАПРЫКАНЦЫ НАГАДВАЕМ, ШТО РЭДАКЦЫЯ «ЗВЯЗДЫ» ЎСЁ ТАК ЖА ЧАКАЕ ВАШЫХ НОВЫХ БЫВАЛІЦ. КАЛІ Ў ВАС СПЯЦЬ ІЛЬФ І ПЯТРОЎ, НЕАДКЛАДНА РАЗБУДЗІЦЕ ІХ І НАПІШЫЦЕ НАМ. ПОСПЕХАЎ.**

## АСАБІСТАЕ ЖЫЦЦЁ

**Аб. 214.** 31/180 нежанаты, пазнаёмлюся з жанчынай 25—35 гадоў, можна з дзецьмі. Пажаданы фотаздымак.

**Аб. 215.** Адзінокі, свабодны ўдавец без шкодных звычак і дзяцей пазнаёміцца з жанчынай да 50 гадоў для шлюбу.

220029, Мінск-29, а/с 46.

## ВІНШАВАННІ

*Ад усёй душы і шчырага сэрца віншуем з днём нараджэння тату і маму Мікалая Уладзіміравіча і Ніну Васільеўну ДУБОЎСКІХ.*

*Жадаем моцнага здароўя і доўгіх шчаслівых гадоў жыцця нам на радасць.*

**З любоўю дачка, зяць і ўнучка. г. Салігорск.**

*Віншуем з 50-годдзем Уладзіміра Анішчыка! Жадаем здароўя, бадзёрасці, творчага плёну!*

**Калегі КНТ, Барысаўскі раён.**

*Віншуем Жэнечку Касцюкевіч з днём нараджэння. Жадаем светлага сонейка, радасці, шчасця.*

**Мама, тата, Віка, г. Светлагорск.**

*Уладзімір Іванавіч! Віншуем з 50-годдзем. Жадаем шчасця, здароўя, поспехаў у працы.*

**Сям'я Прохарчык, в. Б-Ухалода.**

# РЭШТА



**АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ**

## РАДЗІМА МАЯ ДАРАГАЯ

Ішоў 1950 год. Краіна будавалася. Зямля загойвала раны ад былых пажарышчаў.

У памяці Уладзіміра Алоўнікава засталіся выразнымі малюнкі ваенных дзянняў. Ён з першых і да апошніх дзён Айчыннай вайны знаходзіўся на фронце: шмат зведаў, адчуў. Усё ўбачанае болем адклікалася ў душы маладога музыканта, разрывы снарадаў прытуплялі слых, але ў гэты час у яго свядомасці адбывалася асэнсаванне жыцця. Уладзімір Алоўнікаў зразумеў: толькі культура здольна наладзіць гарманічныя адносіны між людзьмі, толькі прасветленасць іх пачуццяў вядзе да паразумення і згоды. Сацыяльная іерархія, як заўважыў кампазітар, асабліва прыметная ў вайсковых колах, без навукова-культуралагічных намераў, мэтаў, без любові ў людсіх душах, заўсёды правакуе на сутыкненні. Першы крок да адзінства — супольная праца і сумеснае ўспрыманне твораў сапраўднага мастацтва. Музыка яднае людзей. Народу патрэбны песні. І яны нараджаліся.

Верш Алеся Бачылы ўразіў кампазітара мудрай прастатой: паэт — равеснік, таксама ўдзельнік вайны — лаканічна і канкрэтна выказаў жаданні народа, яго памкненні. Выпакутаванае на франтавых дарогах, набалелае і перажытае Уладзімір Алоўнікаў перадаў у мелодыі — велічнай і задушэўнай, прыўзнятай і спакойнай, напоўненай цеплынёй. Песня ўспрымаецца як лірычны гімн, як урачыстая споведзь. У ёй арганічна спалучыліся і народныя інтанацыі, што лунаюць над беларускім краем, і водгукі рамансавай лірыкі, і маштабнасць савецкай масавай песні. Пазней кампазітар адзначаў у аўтабіяграфіі, дзе пісаў пра беларускую народную песню: «Сваёй самай любімай лічу песню «Ой, не кукуй, зязюленька, рана» — дасканалы ўзор чыстай узвышанай лірыкі. Яна паслужыла крыніцай для песні «Радзіма мая дарагая», хоць адбылося гэта ў большай ступені падсвядома».

...У прасторы, напоўненай упарадкаванымі гукамі, разнастайнымі шумамі, кожны дзень чуецца мелодыя — пачатковыя інтанацыі песні Уладзіміра Алоўнікава «Радзімая мая дарагая». Гэта — пазыўныя Беларускага радыё і тэлебачання. Яны вітаюць насельнікаў нашага краю і іншыя народы, нясуць светлае прабуджэнне. Мелодыя песні стала музычным сімвалам працавітай і міралюбівай Беларусі.

**Міхась ШАВЫРКІН.**

## РАДЗІМА МАЯ ДАРАГАЯ

*МУЗЫКА Уладзіміра АЛОЎНІКАВА* *ВЕРШ Алеся БАЧЫЛЫ*

*Andante cantabile*

*Радзіма мая дарагая,*
*Ты ў шчасці жаданым жыві.*
*Я сэрцам табе прысягаю*
*У шчырай сыноўняй любві.*
*На рэках шырокіх і нівах,*
*Заводах, будоўлях — наўсцяж*
*Народ наш працуе руплівы*
*І край узвышаецца наш.*

*Навокал жыццё расцвітае*
*І песня ўзлятае сама:*

*Мне лепей ад роднага краю*
*Нічога на свеце няма.*
*Чужое зямлі нам не трэба,*
*Пачуцці ў нас сёння адны:*
*Мы хочам, каб мірнае неба*
*Не знала пажараў вайны.*

*Мы дружбы народам жадаем*
*І шчырай братэрскай любві.*
*Радзіма мая дарагая,*
*Красуйся і ў шчасці жыві!*

**СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ**

## КРЫЖАВАНКА-ПЕРАКЛАД

**Перакладзіце на беларускую мову наступныя словы**

**Па гарызанталях і вертыкалях:** 1. Цель. 2. Поросль. 3. Рассвет. 4. Боярышник. 5. Багрец. 6. Лепта. 7. Рассрочка. 8. Волеизъявление. 9. Приспособленец. 10. Повестка. 11. Бурлак. 12. Бахрома. 13. Заводила. 14. Стеклозавод. 15. Ил. 16. Лейка. 17. Подушечка-думка. 18. Хлопанье (крыльями). 19. Рвение. 20. Обиход. 21. Ухарь. 22. Умопомрачение. 23. Кисель (жидкий овсяный). 24. Вурдалак. 25. Спесивец. 26. Страстность. 27. Заграждение. 28. Лысина. 29. Водоворот. 30. Дюйм. 31. Читатель. 32. Пасть. 33. Индюк. 34. Слог. 35. Веяние. 36. Кувшин. 37. Снегирь. 38. Бомбоубежище.

**Склаў Уладзімір АБАБУРКА.**
*Клецкі раён.*

**Ад рэдакцыі**

Сёння мы змяшчаем чарговую крыжаванку-пераклад, якую склаў наш пастаянны актыўны аўтар Уладзімір Абабурка з в. Морач Клецкага раёна. Як сведчаць і лісты чытачоў, і тэлефонныя званкі да нас у рэдакцыю, крыжаванкі-пераклады карыстаюцца павышаным попытам... у настаўнікаў мовы і рускай, і беларускай. Такія крыжаванкі яны выкарыстоўваюць у якасці практычнага навучальнага матэрыялу, які ў нетрадыцыйнай, іграчой форме дапамагае вучням авалодваць абедзвюма мовамі.

Скласці такую крыжаванку (і складальнікі гэта добра ведаюць) больш цяжка і больш складана, чым звычайную, традыцыйную крыжаванку: тут і словы з «ў» і з «в» у пачатку слова, словы з апострафам не заўсёды выкарыстаеш, шмат яшчэ якіх цяжкасцей. І ўсё ж, будзем спадзявацца, крыжаванкі-пераклады будуць часцей з'яўляцца на нашых старонках і будуць спрыяць вывучэнню беларускай мовы.

## ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**Крыжаванка (12 кастрычніка). Па гарызанталях:** 6. Лінь. 7. Арба. 9. Руно. 11. Верш. 12. Скарбонка. 15. Камунар. 18. Канваір. 21. Сіласаванне. 22. Хустка. 23. Дарвін. 24. Бак. 26. Ангіна. 27. Рэнуар. 29. Лак. 32. Броўка. 34. Акуляр. 36. Каталізатар. 39. Панарад. 41. Марафон. 43. Прафесура. 44. Мова. 45. Вінт. 46. Трыо. 47. Осла. **Па вертыкалях:** 1. Злоснік. 2. «Ангара». 3. Гронка. 4. Саванна. 5. Гуам. 8. Орша. 10. «Аблава». 13. Каталізатар. 14. Кандэнсатар. 16. Ашуг. 17. Устаноўка. 19. Верхатура. 20. Ібіс. 24. Бал. 25. Крк. 28. Урна. 30. Алігер. 31. Лязо. 33. Карпаты. 35. Каравай. 37. Адажыо. 38. Амурск. 40. Неон. 42. Фонд.

## КРЫПТАГРАМА

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 16 | 2 | | 6 | 13 | 2 |
| | 11 | 15 | 2 | | 14 |
| 15 | 1 | 8 | 11 | 8 | , |
| 3 | 11 | 15 | | 5 | 1 |
| 12 | 3 | 4 | 10 | 9 | 7 . |

Разгадайце спачатку ключавыя словы, потым замест лічбаў падстаўце ў малюнак адпаведныя літары і прачытайце народную прыказку.

а) 1-2-3-4 — прэснаводная рыба, б) 5-6-1-7-5-8 — клубневая агароднінная расліна, в) 9-10-11-8-11-8 — даслоўная вытрымка з якога-небудзь тэксту, г) 1-12-13-8 — пушны звер з сямейства сабачых, д) 14-15-16-8 — прастора, што характарызуецца пэўнымі агульнымі прыметамі.

**Даслала Ірына МАРГУН.**
*г. п. Лельчыцы.*



## УСХОДНІ ГАРАСКОП

### на наступны тыдзень

КАЗЯРОГА чакае поспех у бізнесе, падпісанне выгадных кантрактаў і ўкладанне капіталу ў новыя прадпрыемствы. Зоркі рэкамендуюць вам пазбягаць выпадковых знаёмстваў і старанна сачыць за сваёй уласнасцю, на якую ўжо хтосьці паклаў вока.

ВАДАЛЕЙ можа смела брацца за любыя дзелавыя прапановы. Вас усюды чакае поспех. Здароўе таксама не падвядзе, і вы нават набераце крыху лішняй вагі. Самы час стварыць сям'ю тым, хто пакуль сумуе ў адзіноце. У тых, хто чакае дзіця, хутчэй за ўсё народзіцца хлопчык, з чым і віншуем.

РЫБЫ будуць заняты сямейнымі клопатамі, што, аднак, не выключае магчымасці рамантычных прыгод. Яны не забараняюцца, бо ў вас стабільнае становішча на рабоце і ў сферы фінансаў. Дома чакаецца паяўленне гасцей, святкаванне сямейнай урачыстасці і ў сувязі з гэтым — дадатковыя клопаты.

АВЕНЫ з дапамогай сяброў могуць абзавесціся ўласным офісам. Тым, хто незадаволены сваім цяперашнім становішчам, зоркі не раяць пераходзіць на новае месца. І на старым справы хутка пойдуць выдатна. У вас паявіцца магчымасць палепшыць сваю фізічную форму і заняцца спортам, добрыя вынікі чаго хутка з'явяцца.

ЦЯЛЬЦАМ нішто не перашкодзіць планаваць на канец месяца цікавае падарожжа. Планеты рэкамендуюць усё ж не расслабляцца заўчасна і ўважліва ставіцца да фінансавых пытанняў. Інакш маючы адбыцца адпачынак будзе азмрочаны ці нават немагчымы наогул.

БЛІЗНЯТ чакае прыемная навіна, якая датычыць сферы іх дзелавой дзейнасці. Будуць вырашаны ўсе фармальнасці, звязаныя з пачаткам новага бізнесу, які можна будзе распачаць. Дома адбудзецца нейкая ўрачыстасць, на якую збяруцца ўсе вашы сябры і сваякі.

РАКА чакае пасляховы тыдзень. Можна смела падпісваць новыя кантракты, адкрываць сваю справу, расшыраць бізнес і ўкладваць грошы ў нерухомасць. Рыхтуйцеся даведацца пра нешта такое, што паўплывае на вашу кар'еру. Добрымі навінамі падзяліцеся з дамашнімі, адносіны з якімі будуць радаваць вас сваёй ціхамірнасцю.

Увагу ЛЬВА адцягне ад спраў выкананне нейкіх грамадскіх абавязкаў. Затрымка ў зарплаце прымусіць трымацца ў напружанні, якое хутка здыме прэмія ці павышэнне жалавання. Хворыя хутка ачуняюць, а маладым жанчынам зоркі раяць сачыць за фігурай.

ДЗЕВЫ могуць разлічваць на дапамогу сяброў у пошуку работы. Яна знойдзецца, але, на жаль, толькі на нейкі час. Затое дома будуць панаваць мір і спакой. Хатнія гаспадыні набудуць штосьці патрэбнае для кухні. Маладыя змогуць вырашыць узнікшыя праблемы, а шукальнікам прыгод на баку лепш, пакуль не позна, супакоіцца.

ШАЛЯМ давядзецца абмежаваць сябе выкананнем важнай работы. У вас паявяцца цікавыя прапановы адносна перасялення ў новы дом, куплі нерухомасці і расшырэння бізнесу. У тых, хто атрымаў павышэнне ў зарплаце, паявяцца дадатковыя расходы, а той, хто знаходзіўся далёка ад дома, зможа вярнуцца ў родныя сцены.

СКАРПІЁНУ нельга дапускаць памылак у рабоце, і тады яе станоўчыя вынікі будуць відаць адразу. Той, хто дабіваецца прэстыжнага месца на конкурснай аснове, выйграе спаборніцтва і даб'ецца свайго. Больш цярпліва стаўцеся да дзяцей, заахвочвайце іх поспехі, не вельмі перахвальвайце іх.

СТРАЛЕЦ па-ранейшаму знаходзіцца ў паласе ўдач і поспеху. Блізкія сваякі парадуюць вас добрай навіной, а госці, якія нечакана паявяцца дома, створаць атмасферу свята і весялосці. Каханы чалавек запатрабуе да сябе ўвагі, аднак нават калі будзеце з ім толькі ўдваіх, вас не пакінуць думкі аб справах і клопаты аб нейкім блізкім сваяку.

**Леанід КОТАЎ, кар.ІТАР—ТАСС,**
*г. Дэлі.*

## КОНКУРС АНЕКДОТАЎ

Каля магазіна «Ласун» тоўсты гаворыць худому:

— На цябе паглядзеўшы можна падумаць, што ў краіне галадуха.

— А калі меркаваць па табе, можна зразумець яе прычыну.

■

— Ну як здароўе тваёй жонкі? Учора на канцэрце яна так моцна кашляла, што на яе ўсе аглядваліся.

— Не трэба хваляваццa. Проста яна надзела новую сукенку.

■

— Дзень добры, дзядуля! Ты не скажаш, колькі кіламетраў да бліжэйшай вёскі?

— Пяць, сынок, было. А потым прыехалі спецыялісты, перамералі і намералі сем. Дык цяпер мы ходзім лішнія два кіламетры.

■

— Я цябе караю, сынок, бо люблю, — кажа бацька маламу Дзіму.

— Ведаю, тата, — адказвае той, — гэтулькі любові я не заслужыў.

■

— Праходзьце, — асцярожна прытармазіў каля пешаходнага перахода шафёр чорнай «Вольвы».

— Ды не, дзякуй, едзьце, калі ласка, вы.

— Не засмучайцеся, праходзьце.

— Я не спяшаюся, едзьце.

— Я вас прашу, праходзьце.

— Ды не іду я нікуды! Жонку чакаю! Едзьце.

— Я таксама не еду. Бензін скончыўся.

■

Муж устаўшы з ложка, паглядзеў у вакно на вуліцу і сказаў сваёй жонцы:

— Па ўсім відаць, сёння будзе прыгожы дзень!

— Ну і што з гэтага?

— Проста ты сказала, што ў адзін з прыгожых дней пакінеш мяне!

■

Юрыст з Англіі пытаецца ў юрыста з Францыі:

— Якое пакаранне прадугледжвае ваш Крымінальны кодэкс за двая жэнства?

— Дзве цешчы!

■

Падчас футбольнага матча жонка пытае ў мужа:

— Чаму ўсе крычаць на гэтага чалавека?

— Таму што ён кінуў у суддзю чаравікам.

— Але ж ён не папаў.

— Таму і крычаць!

■

Рабаўнік з наганам урываецца ў банк. Галоўны бухгалтар спалохана ўзнімае галаву ад папер і з палёгкай уздыхае:

— А, гэта вы! А я думаў, што рэвізор.

**Даслала Людміла САДОЎСКАЯ.**

У Івана сарачыны — сорак дзён, як закадзіраваўся

ПЛЯШКА

**Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94.430. Індэкс 63850.
Зак. № 6746.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12